БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 50 (13582)

11 —18 снежня 1992 года

Кошт 3 рублі.

10 снежня — дзень правоў чалавека

ДЭКЛАРАЦЫЯ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА





## З ІНФЛЯЦЫЯЙ НЕ СПРАВІЛІСЯ НАВАТ "ЗВЯРЫ"?

Да "зайчыкаў" у якасці беларускай валюты ўсе нашы суайчыннікі з цягам часу прывыклі. Цяпер прыйдзецца прывыкаць да новых банкнот. 4 снежня Нацыянальны банк Беларусі паведаміў аб увядзенні ў абарачэнне новых грошай вартасцю 200 і 500 рублёў (адпаведна дзве і пяць тысяч "драўляных"). Інфляцыя...

На адным баку новых разліковых білетаў — выявы відаў беларускай сталіцы: на білетах вартасцю 200 рублёў — Прывакзальная плошча, 500 рублёў — плошча Перамогі. На адваротным баку гэтых грашовых знакаў — герб Рэспублікі Беларусь "Пагоня" ў арнаментальным афармленні з указаннем годнасці білета і года выпуску.

## ДАРЭМНЫЯ ПРАЦЭНТЫ

З 1 студзеня наступнага года будуць павялічаны (ужо ў каторы раз!) працэнтныя стаўкі па ўкладах насельніцтва ў ашчадным банку. Па ўкладах да запатрабавання будзе выплачвацца 20 працэнтаў гадавых, па тэрміновых і тэрміновых з дадатковымі ўзносамі — 30 працэнтаў.

Якія-ніякія, а ўсё ж грошы. А вось тым уладальнікам укладаў, хто ўстанавіў пэўны тэрмін, працэнтныя стаўкі будуць яшчэ вышэйшыя: ад аднаго года да трох — 30 працэнтаў, ад трох да пяці гадоў — 40 працэнтаў, звыш пяці гадоў — 50 працэнтаў. Што гэтыя працэнты будуць значыць праз тыя ж тры—пяць гадоў, здагадацца няцяжка.



## Стоп-факт

## Ф.СКАРЫНА Ў АБДЫМКАХ ДАРАГОЎЛІ

Нядаўна ў Полацку зарэгістравана новае паліграфічнае прадпрыемства "Спадчына Францыска Скарыны". Справа добрая, але наўрад ці той, чыім імем названа прадпрыемства, застаўся б задаволены. Чаму? Адказ просты: для такой рэчы не знайшлося... звычайнага памяшкання. А таму "Спадчына", узнікшая на базе існуючай друкарні, размясцілася ў свабодных вытворчых памяшканнях вытворчага аб'яднання "Шклотвалакно". Будаўніцтва новай друкарні стала немагчымым з-за неймавернай дарагоўлі на будматэрыялы і абсталяванне.

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

## АБ'ЯДНАЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ ЎКРАІНІСТЫ

Пры нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф.Скарыны створана Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў як аддзяленне Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў.

Кіраўніком камітэта Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў абрана кандыдат філалагічных навук Таццяна Кабржыцкая. Сярод сяброў камітэта — Кузьма Хромчанка, Галіна Каржанеўская, Усевалад Рагойша, Любоў Тарасюк, Уладзімір Гніламёдаў.

**Л. ЛАЗОЎСКАЯ.**

## "МЕДЖДУ ПРОТЧЫМ"

8 снежня ў сталіцы перад Домам урада пад чырвонымі і чырвона-зялёнымі сцягамі сабраліся непахісныя прыхільнікі сацыялістычнага шляху па мадэлі СССР. Скандзіравалі лозунгі "Савецкі Саюз!", "Ганьба несунам!" Асацыятыўную сувязь шукайце самі.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АБЛІЧЧА ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ

12—14 снежня ў Мінску пройдзе рэспубліканская студэнцкая канферэнцыя "Нацыянальная вышэйшая школа на Беларусі", падрыхтаваная Задзіночаннем беларускіх студэнтаў (ЗБС) пры фундацыі упраўлення ВНУ і педадукацыі Міністэрства адукацыі, Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Сярод практычных мэт канферэнцыі — выпрацоўка канцэпцыі нацыянальнай вышэйшай адукацыі, абмен практычным досведам, разгляд пытанняў каардынацыі і інфармацыйнага абмену, усталяванне сяброўскіх і дзелавых кантактаў паміж беларускімі студэнтамі з розных куткоў рэспублікі і з-за яе межаў ды спроба прыцягнуць увагу грамадства да праблем моладзі. У праграме прадугледжаны таксама сустрэчы з кіраўнікамі ўрада, Міністэрства адукацыі, камісій Вярхоўнага Савета Беларусі, запрошаны госці ад таварыства беларускіх студэнтаў у Маскве "Пагоня", Беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы, беларускага аддзялення Віленскага педуніверсітэта ды Спілкі украінскіх студэнтаў. Больш дакладную інфармацыю можна атрымаць па кантактных тэлефонах аргкамітэта:

31-73-70 (Зміцер Вайцяховіч, БДУ).

31-09-53 (Зміцер Салошкін, МДМІ).

31-90-88 (Аляксей Глушко, БДУ).

А наш аповед пра студэнцкую канферэнцыю вы зможаце прачытаць у наступных нумарах "ЧЗ".

**Паўлюк БЫКОЎСКІ.**

## ПАМЯЦІ МІКАЛАЯ ІГНАТОВІЧА



6 сьнежня пасьля цяжкай хваробы памёр Мікалай Ігнатовіч – першы Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусі, чалавек новага пакаленьня дзяржаўных людзей, не зьвязаных са старым апаратам, з камуністычнай палітыкай, чалавек дэмакратычных перакананьняў, здольны і гатовы служыць справядлівасьці, закону і Беларусі. У цяжкім 1989 годзе ў час выбарчай кампаніі Беларускі Народны Фронт змог вылучыць Мікалая Ігнатовіча кандыдатам у народныя дэпутаты СССР, падтрымаў яго і не памыліўся. Мікалай Ігнатовіч ня здрадзіў сваім дэмакратычным прынцыпам і абавязкам і не забыўся пра Беларусь. Будучы народным дэпутатам СССР, ён увайшоў у Міжрэгіянальную Дэпутацкую Групу, удзельнічаў у Камісіі, што займалася справай Гдляна, Іванова і пытаньнем карупцыі ў КПСС, узначальваў Камісію Вярхоўнага Савета СССР па прывілеях наменклатурных асобаў, абараняў там справядлівасьць, раскрыў злоўжываньні і ашуканства людзей партыйнай алігархіяй.

На Беларусі Мікалая Ігнатовіча ведалі раней як легендарнага сьледчага, што раскрыў "віцебскую справу", пераламаўшы, перамогшы бяздушную машыну савецкай партыйнай пракуратуры. Ён адгукаўся на ўсе добрыя справы дэмакратычнага руху, удзельнічаў у буйнейшых акцыях БНФ – "Чарнобыльскім шляху", "Чарнобыльскім трыбунале", выбарах і канферэнцыях. Як шкода, што першаму Генеральнаму пракурору Беларусі лёс ня даў ні часу, ні магчымасьці разгарнуць дзейнасьць, выкарыстаць свае здольнасьці, ажыцьцявіць мары, перайрэсьці закасьцянелыя структуры, навесьці парадак у кантролі за выкананьнем законаў. Сьмяротная хвароба падкасіла яго сілы, вырвала з працы, прыкавала да ложка. Заўчасная сьмерць Мікалая Ігнатовіча – вялікая страта для нашай Бацькаўшчыны. Памяць пра гэтага добрага, стрыманага, разумнага чалавека, знаўцу законаў, паборніка справядлівасьці назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, хто разам зь ім жыў, працаваў і змагаўся.

Сябры Беларускага Народнага Фронту выказваюць спачуваньне жонцы і дзецям, родным і блізкім Мікалая Ігнатовіча.

Вечны супачынак яго душы.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне".

Калектыў "Чырвонай змены" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці сумленнага сына Бацькаўшчыны Мікалая Іванавіча ІГНАТОВІЧА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

*Навіны з даўніны*

## ПЕРШЫ ТРАМВАЙ НА БЕЛАРУСІ

На Беларусі гэты неверагодны для таго часу сродак перамяшчэння з'явіўся толькі ў 1898 годзе ў Віцебску.

У Мінску за пабудову трамвая ўзяліся ў 1914 г. У канцы 1915 г. узведзены сцены для вагоннага парка і пакладзены 2 кіламетры рэек. Умацаваны два паравыя катлы фірмы "Фіцнер і Гампфер". На заводзе "Броун і Боверн" у Швейцарыі былі прыгатаваны два турбагенератары пастаяннага току па 300 вольт. Ваенныя падзеі прыпынілі работы па абсталяванню трамвая. У час эвакуацыі горада непакладзеныя рэйкі і кабелі былі вывезены ў Цэнтральную Расію.

З пераходам на мірнае будаўніцтва зноў паўстала пытанне аб трамваі. Акрамя дзвюх вышэйшых навучальных установ (БДУ і сельскагаспадарчай акадэміі), у Мінску існавала шмат прафесійна-тэхнічных школ. У 1924 г. адлегласць ад цэнтра да ўскраін была крыху больш за 3 км. Жыхарам ускраін прыходзілася затрачваць па дзве гадзіны, каб дайсці ад хаты да свайго прадпрыемства ці ўстановы.

З 1924 г. пачалася распрацоўка праекта пабудовы трамвая ў Мінску. Конка, якая існавала ў тыя часы, перавозіла ў год каля 900 тысяч чалавек і не магла задаволіць патрэбы насельніцтва. Такім чынам, у 1929 г. першы ў Мінску трамвай пабег па рэйках. Даўжыня трамвайных шляхоў была ў 2,5 раза больш за коначны. Ён праходзіў па некалькіх ажыўленых ускраінах: Камароўцы, Старажоўцы, Серабранцы і з'яднаў горад з дзвума вакзаламі, у той час, як конка аб'ядноўвала толькі з адным (чыгуначным). Было падлічана, што колькасць пасажыраў, перавозімых у год трамваем, складала 2.590.000. Гэта лічба адпавядала даным прадукцыйнасці электрычнага трамвая ў заходнееўрапейскіх гарадах.

**А.ДАЛІДОВІЧ,**
**вядучы археограф ЦДАКР РБ.**

## ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ



## ПРАЗ АГОНЬ

Гэты здымак зроблены не ў Карабаху, не Югаславіі, ці Прыднястроўі. Прабачце нам за тое, што яшчэ раз нагадваем, здаецца, банальную ісціну: агонь не толькі служыць чалавеку, але і з'яўляецца страшнай знішчальнай зброяй.

З пачатку гэтага года на Беларусі адбылося 15.157 пажараў, страты ад якіх склалі больш за 92 мільёны рублёў. Але ж хіба можна вымераць у нейкіх грашовых адзінках чалавечыя жыцці, абарваныя агнём? Менш чым за год у пажарах загінула 423 чалавекі, сярод якіх 52 дзіцяці...

Сёлета агню прынесена шмат ахвяр. Страты толькі ад лясных і тарфяных пажараў склалі больш за 2 мільярды рублёў, выгаралі 4 мільёны тон торфу. На тушэнне гэтых пажараў затрачана 140 мільёнаў рублёў. Голыя лічбы? Не – агаленыя ствалы дрэў, апаленыя, быццам пад час вайны, коміны. Агнём знішчана 4815, пашкоджаны 4873 пабудовы. Уявіце, колькі людзей засталося без даху над галавой! Факты, якія прывёў начальнік Галоўнага ўпраўлення пажарнай аховы МУС РБ Валерый Пятровіч Астапаў, прымушаюць задумацца. Аказваецца, сілы пажарнай аховы не толькі не ўзмацняюцца, але і, наадварот, скарачаюцца. Зменшылася колькасць міжгаспадарчых апорных пунктаў, якія па меры сваіх сіл ахоўвалі вёску ад пажараў. Гэта пры тым, што сёлета пажарныя выратавалі ад агню больш за 30 населеных пунктаў!

Ва ўсім свеце страхавыя кампаніі ўкладаюць грошы ў пажарную ахову. Пакуль у нас гэтая сістэма не адпрацавана, ад дзяржавы залежыць, на колькі якасна пажарныя будуць выконваць свае абавязкі. Мы мелі магчымасць убачыць магутную тэхніку, якая знаходзіцца ў распараджэнні пажарных. Але ж гэтай тэхнікі вельмі і вельмі мала. І адначасова з тэхнічным аснашчэннем неабходна павышаць элементарную культуру адносін з агнём! Калі ж, нарэшце, задумаюцца людзі: ці не варта надзейна захаваць запалкі, ключ ад газавай пліты, дзесяць разоў праверыць, ці затушаны цыгарэтны акурак або вогнішча ў лесе, чым перанесці смерць уласнага дзіцяці... А пакуль што спраўджваюцца словы Станіслава Шушкевіча: чалавек не стане ўдзяляць гэтаму ўвагу, пакуль не праясе праз уласнае ўспрыманне...

**Алесь ПАЛЫНСКІ.**

*Дабрачыннасць*

## ПЕСНІ, КНІЖКІ І ЦУКЕРКІ – ДЗЕЦЯМ

Гасцямі Івянецкага дзіцячага дома для рабят з парушэннямі рухальнага апарата ў Міжнародны дзень інваліда сталі прадстаўнікі ЦК Мінскага абкама СМБ, рэдактар газеты "Зорька" Эмілія Луканская, кампазітар Эдуард Зарыцкі, кіраўнікі мясцовага племзавода. І прыехалі яны не з пустымі рукамі. Саюз моладзі і "Зорька" падарылі кожнаму дзіцяці па кніжцы, племзавод, які пералічыў у гэты дзень на рахунак дзіцячага дома 50 тысяч рублёў, – па каробцы цукерак, а Эдуард Зарыцкі – песні.

Не засталіся ў даўгу і дзеці. Паказалі, на што здольныя. І ў вучобе, і ў рабоце, і на сцэне.

**Прэс-цэнтр ЦК СМБ.**

*Сувязі*

## ПАЛІТЫКІ І ШКОЛЬНІКІ ПАДАРОЖНІЧАЮЦЬ РАЗАМ

Бадай, што такой разнастайнай па інтарэсах і палітычных поглядах беларускай дэлегацыі яшчэ не бачыў пабрацім Віцебска – нямецкі горад Нінбург. Прадстаўнікоў БНФ, АДП, БСДГ, Шагалаўскага камітэта, таварыства "Веды", а таксама школьнікаў запрасілі ў гэту паездку Віцебскі абкам СМБ і таварыства з абмежаванай адказнасцю "Гама-В".

Прымаючы бок – філіял таварыства міжнародных кантактаў горада Нінбурга – падрыхтаваў для дэлегацыі адпаведную праграму. На працягу тыдня адны ўдзельнічалі ў семінары па камунальнаму самакіраванню, сустракаліся з прадстаўнікамі блізкіх па поглядах палітычных партый, другія – школьнікі, мелі зносіны са сваімі равеснікамі-гімназістамі горада Штольцэнау.

**Прэс-цэнтр ЦК СМБ.**

## ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЯ ХРОНІКА

### *ГОМЕЛЬ*

#### РЫХТУЙ САНІ ЛЕТАМ...

Спякотнае лета бумерангам адгукнулася ўзімку: апусцелі малочныя аддзелы магазінаў. Высветлілася, што ў вяскоўцаў таксама праблемы: не хапае духмянага сена, каларыйных кармоў. Калі ў добрыя гады на гарадскі малочны камбінат па вуліцы бр.Лізюковых паступала ў суткі па 350 тон малака, то зараз толькі 200 тон. Каб забяспечыць насельніцтва дэлікатэсамі, прыходзіцца вазіць малачко з усёй вобласці. Рэзка звузіўся і асартымент выпускаемай прадукцыі.

#### З БЕДАМІ — У СЛУЖБУ ДАВЕРУ

З 1 снежня ў Гомелі дзейнічае служба даверу. Апынуўшыся ў складанай сітуацыі, кожны жадаючы, звярнуўшыся сюды, знойдзе неабходную падтрымку.

#### СОРАМ — НЕ ВОРАН...

Каля 3 тысяч чалавек наведваюць штомесячна аддзел сацыяльна-эканамічнага развіцця Савецкага райвыканкама. Сюды прыходзяць, каб атрымаць "чарнобыльскую кампенсацыю", папрасіць матэрыяльную дапамогу. У асноўным, гэта – беспрацоўныя, маламаёмныя грамадзяне пагарэльцы. Сустрэнеш сярод іх і асоб без пэўнага ўзросту і занятку ў грамадстве. Яны хуценька хапаюць самапіску дрыготкімі рукамі, пакідаюць нязграбны аўтограф у ведамасці. І... знікаюць за дзвярыма піўнушак.

Бываюць тут і сапраўдныя багацеі. Яны з шыкам рулююць да райвыканкама ў замежных супераўто. Дарагая вопратка і іншыя атрыбуты здзіўляюць. Няўжо панам і паненкам патрэбны гэтыя 155 рублікаў? Пэўна, мяркуюць, што калі дзяржава дае, чаму б не ўзяць! Сорам – не воран...

**Падрыхтавала Ганна АТРОШЧАНКА.**

### *ВІЦЕБШЧЫНА*

#### НЕ СВЯТЫЯ ГАРШКІ ЛЕПЯЦЬ

Кажуць людзі, на бога спадзявайся, а сам старайся. Не чакае, пакуль з неба манна пасыплецца, жыхар вёскі Памшулі, што на Міёршчыне, Міленцій Варона. З якім бы клопатам ні звярнуліся да яго вяскоўцы, заўсёды выручыць, паспагадае. Міленцій рамантуе колы, гне дугі, валіць валёнкі, у кузні ён, як дома, а дома... дома заўсёды ці ў садзе, ці ў пчальніку. Вуллі для пчол таксама сам зрабіў – не святыя гаршкі лепяць.

#### "АДПУСЦІЦЕ МЯНЕ Ў ГІМАЛАІ"...

Вырашыць следства, куды так спяшаўся вечарам па вуліцы Ленінградскай у Віцебску грузчык райаграпрамтэхнікі. Хіба ў Гімалаі... Ногі запляталіся пад цяжарам адказнага грузу, але ён і не думаў адступаць, дзіва што, "грузам" аказалася ... кулямётная стужка з трыццаццю шасцю патронамі –"броня крепка и танки нашы быстры..." Ну й работка ў грузчыкаў, не пазайздросціш!

**Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.**

Алесь АДАМОВІЧ

# ПАЦЫФІЗМ ШАСЦІДЗЕСЯТНІКАЎ

**Нядаўна ў Маскве ў Інстытуце ўсеагульнай гісторыі РАН адбыўся міжнародны семінар пацыфістаў.**

Паколькі я сябе таксама адношу да ліку шасцідзесятнікаў, у маіх разважаннях будзе прысутнічаць момант успамінаў.

Хто яны (мы) такія, шасцідзесятнікі, і якая іх роля ў гісторыі грамадскага жыцця, думкі? Рознае сёння пра гэта гавораць, пішуць, часам справядліва, часта несправядліва. Тым больш што шасцідзесятнікі — гэта не адно пакаленне і зусім розныя тыпы паводзін. Як у 60—70-я гады, так і ў наш час. Прытым атрымлівалася, што ў 60-я яны былі разам, заадно (напрыклад, "ваенныя" пісьменнікі Бондараў і Бакланаў), а сёння — поўныя антыподы. Або да жнівеньскага путчу і ў час яго — з намі (як Юрый Уласаў), сёння са стану агрэсіўных дзяржаўнікаў нам жа адкрыта пагражаюць будучай расправай за падрыў магутнасці (у тым ліку і ваеннай) дзяржавы.

Ну, а што мы самі пра сябе думаем, як чытаем жыццё сваё? Ёсць пакаленні (гэта якраз шасцідзесятнікі), якіх не абышлі, якія выпрабаваны самымі галоўнымі "ракавымі" хвілінамі гісторыі. У гэтым сэнсе нам пашанцавала. Стагоддзе XX — эпоха выпрабавання чалавека і чалавецтва таталітарызмам. Стагоддзе руйнавання яго, некаторыя лічаць, канчатковага. Невыпадкова ў часы перабудовы на Захадзе нарадзілася і бурна абмяркоўвалася ідэя пра "канец гісторыі", пра канчатковую перамогу ліберальных ідэй і шляхоў развіцця чалавецтва.

Шчаслівы той, хто можа сказаць, што прымаў удзел у разгроме не толькі карычневай, але і чырвонай чумы XX стагоддзя. Як бы дорага ні абышоўся такі ўдзел. Шасцідзесятнікаў не абмінула гэткая ўдача. Яны ваявалі з Гітлерам. Менавіта іх вынашанае дзецішча — перабудова, а як вынік яе — поўнае крушэнне крывавай камуністычнай утопіі. Сёння спрачаюцца, наколькі свядома яны дабіваліся менавіта такога выніку, хаця зусім зразумела, што былі і тыя, хто толькі гэтага і жадаў (актыўныя дысідэнты), другія ж доўга не расставаліся з уяўленнямі пра "сапраўдны сацыялізм", але і тыя і другія дзейнічалі ў адным напрамку. Так, Гарбачоў — гэта не Салжаніцын, але наўрад ці вынік сваёй дзейнасці Салжаніцын убачыў бы ўжо сёння, калі б не выканаў сваю гістарычную місію далёка не дысідэнт Гарбачоў.

Свая, асаблівая роля шасцідзесятнікаў у развіцці і станаўленні пацыфізму ў нашай краіне. Па зразумелых прычынах бяру тых, пішу пра тых, з кім так ці інакш меў прамы (або не зусім прамы) кантакт, пра з'явы, якія мне асабліва знаёмыя і блізкія. Некалькі заўваг пра дзіўны феномен нашага духоўнага жыцця, так званай "ваеннай літаратуры" шасцідзесятнікаў (Канстанцін Вераб'ёў, Брыль, Акуджава, Быкаў, Бакланаў і іншыя). Яна не была ў класічным разуменні пацыфісцкай, гэта шчымліва праўдзівая, сумленная, лейтэнанцкая і салдацкая проза. Але па духу, па пафасу і асабліва ў нашых умовах такая "рэмаркісцкая" ваенная літаратура была магутным, праз свядомасць мільёнаў чытачоў, прарывам у бок менавіта пацыфізму. Калі гэтая літаратура пачала вычэрпваць свой пацыфісцкі зарад, на старонкі друку вылілася прамая дакументальная памяць пра вайну, як яна жыла ў народзе. Хатынская, блакадная, жаночая і дзіцячая памяць пра перажытае, дзе адмаўленне вайны яшчэ больш катэгарычнае і безагаворачнае. Таму што, як паказаў яшчэ Рэмарк, у салдата з часам (у пісьменнікаў-лейтэнантаў таксама) крывавае ва ўспамінах выцвітае да ружовага, і вайна ім пачынае ўжо бачыцца ў рамантычных фарбах, тады як жанчыны, дзеці, якія перажылі пекла хатыняў або ленінградскага голаду, да такой трансфармацыі амаль не схільны. У гэтым я сам пераконваўся неаднойчы, калі запісваў на магнітафон успаміны беларускіх сялян і ленінградцаў для "Блакаднай кнігі" і кнігі пра Хатынь "Я з вогненнай вёскі".

Другі вельмі магутны штуршок наша грамадская свядомасць адчула з боку... фізікаў-ядзершчыкаў.

Так ужо атрымалася: "ваенная прафесія" як у літаратуры, так і ў навуцы развівалася ў бок самаадмаўлення. "Ваенная" літаратура зрабілася фактычна антываеннай, а вучоныя, так або інакш блізкія або звязаныя з Бомбай (нямногія, але вельмі аўтарытэтныя), сталі магутным каталізатарам антымілітарысцкіх настрояў у краіне. Капіца — сваёй адмовай удзельнічаць у распрацоўцы ядзернай праграмы, Ландау — злосным непрыманнем самой Сістэмы, якая пагражала ўцягнуць свет у глабальны канфлікт, Сахараў — адкрытым бунтам супраць непадкантрольных улад, якім ён уручыў сваё ракавое адкрыццё.

Асаблівасць нашага пацыфізму — імкненне праз гэты канал вырашаць і дасягаць мэты больш шырокай: палітычнага пераўтварэння таталітарнага грамадства.



Улады гэта разумелі і люта кідаліся з рэпрэсіямі на ініцыятараў стварэння любых пацыфісцкіх груповак, арганізацый. Пацыфізм напрамую змыкаўся з "палітыкай". Хаця не ўсім гэта здавалася відавочным. Справа ў тым, што ў нас дзейнічала своеасаблівая "глушылка" у выглядзе Камітэта абароны міру, доўгія гады яго ўзначальваў такі ястраб, як Юрый Жукаў. Інтэлігенцыя ведала кошт гэтым "барацьбітам за мір", але для многіх ужо любая дзейнасць у напрамку пацыфізму ўяўлялася нічым іншым, як "жукаўшчынай". (А пазней — "баравікоўшчынай"). Казённая "глушылка" адштурхоўвала свядомасць вельмі многіх ад пацыфісцкай фразеалогіі наогул. Неяк атрымаў я пісьмо ад выдатнага ленінградскага пісьменніка-марыніста Віктара Канецкага, поўнае іроніі і сяброўскіх папрокаў: чым ты там займаешся? Пакінь у спакоі Бомбу, пакінь яе Жукаву, азірніся, паглядзі, што ў краіне робіцца? І г.д. Памятаю, што я яму пісаў і гаварыў у адказ. Змяніць што-небудзь у краіне магчыма толькі на магутнай хвалі, падобнай да той, якую ўзняло выкрыццё культу Сталіна. Але тады, у 60-я гады, не атрымалася, яны гэтую хвалю патушылі. Зараз ёсць толькі адна тэма, праблема, здольная аб'яднаць пачуцці, эмоцыі мільёнаў нашых суграмадзян: калі яны зразумеюць, убачаць, якая пагроза над намі, над будучымі пакаленнямі, і створана гэтая пагроза перш за ўсё нашымі прэтэнзіямі ўсе краіны і народы павярнуць на камуністычны шлях. З-за страху перад усеагульнай гібеллю, з-за пратэсту супраць гэтага і можа ўзнікнуць эмацыянальная хваля, якая ператворыцца ў палітычную актыўнасць. Вось логіка некаторых з нас, мая была ва ўсякім разе такой — у спрэчцы з Канецкім.

Па-рознаму "пацыфісты" (нас так называлі звычайна ўладатрымальнікі) спрабавалі паскорыць гэты працэс. Адзін з прыёмаў — праз заявы, якія шакіравалі грамадскую свядомасць. Каб неяк прабіць глухую сцяну, кару неразумення таго, што нам усім пагражае. Менавіта такі эфект, у прыватнасці, атрымаўся на Маскоўскім форуме "За мір і выжыванне чалавецтва") у 1987 г. (а затым публікацыя ў "Московских новостях", калі я сказаў, што не толькі на першы ядзерны ўдар, але і на ўдар у адказ, (што даб'е чалавецтва) ніхто не мае права ("Я не націснуў бы"). Не толькі афіцыйныя асобы (уключаючы Д.Валкагонава, тады намесніка начальніка палітупраўлення арміі), але і многія сабраты-пісьменнікі адрэагавалі, як і можна было чакаць: так можа гаварыць толькі здраднік свайго народа! Як так — не адказаць ударам на ўдар? Заўсёды адказвалі "па-варашылаўску". Ну, а што даб'еш гэтым самым апошняе жыццё на планеце — пра гэта не задумваліся. Дарэчы, і паўгода не мінула, як аб такіх рэчах пачалі судзіць-радзіць спакайней, набылі здольнасць хаця б выслухоўваць "пацыфістаў-здраднікаў". Толькі ў гэты час магла быць надрукавана (у часопісе "Век XX и мир") славутая фраза Андрэя Нуйкіна: "Непацыфістам у наш час можа быць толькі ідыёт". Ну, а як бы вы назвалі дзеячаў з беларускага ЦК (але наўрад ці яны самі гэта прыдумалі), якія павучалі інтэлігенцыю, заражаную "пацыфізмам": калі ад народа нашага застанецца дзесяць чалавек у выніку ядзернага канфлікту, самае галоўнае, каб яны засталіся адданымі "сацыялістычнаму выбару".

Канешне, у 70—80-я гады на многія рэчы мы глядзелі не так, як сёння. Гэта зараз мы можам благаслаўляць рэйганаўскую ўпартасць і праграму САІ, якія ў спалучэнні з ініцыятывамі і дзейнасцю Гарбачова далі ў рэшце рэшт выратавальны вынік. Імперыя камуністычнага мілітарызму, надарваўшыся эканамічна, рухнула і ідэалагічна. Але гэта мы зараз можам спакойна пра ўсё разважаць, бо ведаем, што горшага не адбылося. Што на ўпартага Рэйгана не знайшлося такога ж упартага з нашага боку. І тады, як у той час папярэджваў Карнелій Саган, хто адрозніў бы ядзерны попел сацыялізму ад попелу капіталізму? І хто хаця б пракаменціраваў апошнюю драму жыцця на Зямлі, раздзяліўшы невінаватых ад вінаватых?

У "Комсомольской правде" ад 8 жніўня 1992 г. апублікаваны матэрыял пра акадэміка Ландау. Кадэбісцкія запісы яго размоў, думак і разважанняў, падслуханыя "добразычліўцамі" (так Лубянка называла сваіх стукачоў).

"Я лічу так: калі наша сістэма знікне без вайны — неістотна, рэвалюцыяй або эвалюцыяй, гэта усё роўна, — то вайны ўвогуле не будзе. Без фашызму няма вайны".

І яшчэ: "Калі наша сістэма мірным спосабам не можа рухнуць, то трэцяя сусветная вайна непазбежна з усімі жахамі, якія пры гэтым наканаваныя. Так што пытанне аб мірнай ліквідацыі нашай сістэмы ёсць пытанне аб лёсе чалавецтва па сутнасці".

Гэта гаварылася, так думалі самыя празорлівыя шасцідзесятнікі ўжо ў 1956 годзе. У 80-я гады яны пачалі перабудову, у 1991 годзе стаялі разам з моладдзю на барыкадах — пры грозных сутаргах сістэмы, якая не жадае адыходзіць мірна. І тое, што гэта адбылося, што гэта здарылася, — сістэма рухнула без ядзернай вайны, — магчыма, і ёсць самая галоўная заслуга, справа і нашых шасцідзесятнікаў. (Вядома, не іх адных, але іх таксама — безумоўна.)

Гэта найвялікшая, думаю, у гісторыі (пасля мірнай рэвалюцыі Гандзі) перамога пацыфізму.

---

*Рэха падзеі*

*Было — не сплыло*

## ЗАГАДКА СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

Святкаванне 72-х угодкаў Слуцкага паўстання, наладжанае фактычна аргкамітэтам з прадстаўнікоў свядома працуючых на нацыянальнае Адраджэнне партый і рухаў, прайшло не зусім так, як меркавалася арганізатарамі. Прычынай таму — стаўленне да азначанай падзеі ўлад як мясцовых, так і дзяржаўных. Салігорскі і Слуцкі гарвыканкамы (згодна з паведамленнем "Звязды") пастанавілі адмовіць ініцыятарам святкавання ў адкрыцці мемарыяльнай дошкі ў Слуцку і тэматычнай мастацкай выстаўкі ў Салігорскім краязнаўчым музеі. "Верхні эшалон" маўкліва ўспрыняў імклівую ходу падзей: маўляў, не сказалі яшчэ сваё слова гісторыкі.

А хто ў нас, на Беларусі, займаўся гісторыяй Слуцкага паўстання? Каму быў дадзены на тое дазвол? У 1987 годзе з'явілася невялікая кніга гісторыка Анатоля Грыцкевіча "Вакол "Слуцкага паўстання", выдадзеная ў бібліятэчцы газеты "Голас Радзімы". Цяпер многія, абвяргаючы значнасць Слуцкага паўстання, будуць, напэўна, цытаваць тагачасныя высновы А.Грыцкевіча. Але штосьці іншае наўрад ці можна было надрукаваць нават у 1987 годзе.

Сёлета, праводзячы навуковую канферэнцыю ў гонар Слуцкага паўстання, і Анатоль Пятровіч, і іншыя ўдзельнікі размовы менш за ўсё паддаліся эмоцыям. Яны імкнуліся прадставіць да ўвагі калег, журналістаў, слухачоў адны толькі факты.

Доктар гістарычных навук А.Грыцкевіч падрабязна расказаў пра ход падзей у лістападзе-снежні 1920 года на Случчыне. Адной з прычын паўстання гісторык назваў палітыку "ваеннага камунізму". Адметная рыса падзей лістапада 1920 года — высокі ўзровень ваеннай арганізацыі. Літаральна за некалькі дзён былі створаны вайсковыя фарміраванні.

Навуковец Валянцін Мазец спыніўся ў сваім дакладзе на характары вайсковай арганізацыйнай дзейнасці, што папярэднічала Слуцкаму паўстанню. Якія ж праблемы больш чым сем дзесяцігоддзяў таму стаялі перад Беларускай цэнтральнай вайсковай радай. Аказваецца, тыя ж, што і зараз: увядзенне беларускай мовы, вяртанне вайскоўцаў-землякоў на радзіму.

Гісторык Ніна СТУЖЫНСКАЯ дакранулася ў сваім выступленні да шматграннай тэмы "Беларуская моладзь у Слуцкім паўстанні". А менавіта ж моладзь і займала значнае месца ў слуцкіх падзеях. Расказваючы пра гэта, спадарыня Стужынская працытавала шэраг цікавых архіўных дакументаў. Менавіта гэтае выступленне падштурхнула да думкі, што ў асвятленні слуцкіх падзей, у іх асэнсаванні нам не хапае дакументальных, архіўных сведчанняў. Ці запісваў хто ўспаміны слуцкіх паўстанцаў? Хіба што пад час допытаў. Тое-сёе друкавалася ў эміграцыйнай літаратуры. Аднавіць гэта, даць для азнаямлення шырокаму колу чытачоў — вось клопат у вяртанні гістарычнай праўды.

І мо тады, услед за доктарам гістарычных навук М.Бічом, людзі здолеюць усвядоміць, што слуцкія падзеі — гэта сапраўды народнае выступленне за свае права "людзьмі звацца". Тады і ня будзе загадкай Слуцкае паўстанне.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

"ПАС" падрыхтавала Алена АГІБАЛАВА, рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі. тэл. 39-87-94

## АЛЯКСАНДР ФЯДУТА:

# «МЫ ПАВІННЫ СТАЦЬ НЕАБХОДНЫМІ...»



*Нашчадак ЛКСМБ — Саюз Моладзі Беларусі —варты павагі ўжо за тое, што змагаецца за сваё існаванне, ды й не толькі змагаецца, але і ясна бачыць яго сэнс. Мяркуем, што моладзі будзе цікава даведацца пра пункт гледжання першага сакратара гэтай буйнейшай арганізацыі для маладых на праблемы маладзёжнай палітыкі, наогул, на незайздроснае ў наш час жыццё моладзі. Слова — АЛЯКСАНДРУ ФЯДУЦЕ.*

– Аляксандр, які сэнс Вы ўкладваеце ў паняцце "маладзёжная палітыка"?

— З майго пункту гледжання, існуюць два віды палітыкі наогул: знешняя і ўнутраная. Знешняя накіравана на захаванне дзяржавы, унутраная павінна спрыяць яе развіццю. Калі зыходзіць з таго, што адзіны магчымы шлях існавання дзяржавы — кансервацыя ўсіх грамадскіх адносін, тады дзяржава павінна ўзяць курс на захаванне статус-кво. Але ж калі дзяржава думае аб будучым, яна павінна ўкладваць у сваіх грамадзян грошы тады, калі яны яшчэ толькі ўваходзяць у жыццё. Старыя ў Германіі, у іншых развітых краінах адчуваюць сябе добра таму, што яшчэ з маладых гадоў не былі лішнімі. Ва ўсім цывілізаваным свеце існуе такое паняцце, як фінансаванне маладзёжных праграм. Гэта (дарэчы класічны прыклад сацыял-дэмакратычнай дактрыны) гарантаванне першага працоўнага месца. Па-другое, спецыяльныя маладзёжныя пазыкі, якія можна вяртаць нават на працягу ўсяго жыцця пры мінімальным працэнце. І нарэшце, гарантыі правоў асобы, правоў сям'і і правоў уласнасці. Гарантыя першага рабочага месца павінна ажыццяўляцца як за кошт права на адукацыю, так і за кошт адпаведнай падатковай палітыкі. Дзяржавай зніжаюцца падаткі з тых прадпрыемстваў, якія непасрэдна ўводзяць першыя рабочыя месцы для моладзі, тое ж самае — з банкаў, што выдаюць маладым людзям крэдыты і г.д. Вось усё гэта ў комплексе, відаць, і ёсць маладзёжная палітыка. І нарэшце, павінны быць яшчэ і палітычныя гарантыі. Гэта ў нас ужо ёсць — пачынаючы з 18 год, чалавек цалкам дзеяздольны, мае права выбіраць, быць выбраным у Саветы розных узроўняў. Сапраўды, палітычныя правы моладзі напоўнены ў нас пэўным зместам. Эканамічных жа правоў не існуе. Вельмі пажадана, ды што там — проста неабходна было б замацаваць такія правы ў Канстытуцыі. Але ж, наколькі я ведаю, гэтага пакуль няма. Што ж зробіш — абсалютная большасць нашых народных дэпутатаў даўно выйшла з маладзёжнага ўзросту. Тыя ж дэпутаты, якіх выбралі з нашай дапамогай, гэта значыць, прадстаўнікі моладзі, урачыста накіраваліся ў аўтаномнае плаванне па бурным палітычным моры. Не буду ўтойваць, што мы калісьці меркавалі стварыць маладзёжнае лобі ў Вярхоўным Савеце. Гэтага не ўдалося. Падкамісія ж Вярхоўнага Савета па справах моладзі (гэта апошнім часам яна стала ўсяго толькі падкамісіяй), адносіцца да сваёй справы проста несур'ёзна. І калі Станіслаў Шушкевіч з гатоўнасцю ідзе на сустрэчу з нешматлікім прафсаюзам накшталт собалеўскіх, дык проста становяцца незразумелымі адносіны кіраўніцтва парламента Беларусі да праблем моладзі. Нават уводзіцца абмежаванне ўзросту моладзі да 25 гадоў... Быццам у 26 — чалавек ужо стары...Гэта ж проста абсурд! І наогул у мяне такое ўражанне, што мы нейкія персанажы ў тэатры абсурду.

Нарэшце, створаны Камітэт па справах моладзі. Але нават у яго няма гарантый для плённай працы, бо яму неабходна вертыкальная структура. А пытанне стварэння ці нястварэння аддзелаў па справах моладзі цалкам залежыць ад волі мясцовых органаў улады. І натуральна, што ў той перыяд, калі раённыя бюджэты трашчаць па швах, ніхто нічога ствараць не збіраецца. Тым больш структуру, якая грошы зарабляць не зможа, а вось патрабаваць іх будзе. Разлічваць жа на змену светапогляду мясцовых кіраўнікоў за тых паўгода, якія мінулі пасля прыняцця Закона "Аб асновах дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі," пакуль проста немагчыма. Так і жывём. Магу канстатаваць, што наша дзяржава цалкам ухілілася ад вырашэння маладзёжных праблем.

– Але ж СМБ гэтага рабіць не збіраецца?

— Па самой сваёй сутнасці, па сваіх задачах мы павінны спрыяць вырашэнню праблем моладзі. Не сакрэт, што зараз перажываем самы цяжкі крызіс за ўсю гісторыю арганізацыі. Гэты крызіс перш за ўсё звязаны, скажам так, з падзеннем ступені актыўнасці людзей наогул і моладзі ў прыватнасці. Апошнія выбары гэта паказалі. Большасці людзей, шчыра кажучы, да лямпачкі, які дэпутат будзе абраны, да якой партыі ён належыць. І наша няшчасце ў тым, што моладзь пакуль не ўсвядоміла сябе палітычнай сілай, не ўсвядоміла, што ёсць арганізацыя, якая можа ўзяць на сябе ролю маладзёжнага прафсаюза. А рэальна працуючыя прафсаюзы не ўлічваюць узроставай дыферэнцыяцыі. Паводле ўсіх прафсаюзных прынцыпаў, чалавек карыстаецца льготамі тады, калі мае большы стаж працы на тым ці іншым прадпрыемстве. Моладзі ўжо загадзя адводзіцца роля стаяць у чарзе. У гэтых умовах наша задача (а СМБ пакуль што з'яўляецца самай масавай маладзёжнай арганізацыяй) — заканадаўчая ініцыятыва.

– Колькі ж зараз вы налічваеце членаў у сваёй арганізацыі?

— Паводле маіх папярэдніх арыенціраў, у рэспубліцы пасля перарэгістрацыі застанецца не менш як 150—200 тысяч членаў СМБ. Ды і наогул мы не толькі самая масавая маладзёжная арганізацыя, але і самая масавая грамадская арганізацыя пасля прафсаюзаў.

– Створаны Нацыянальны савет маладзёжных арганізацый Беларусі. Чым выклікана неабходнасць такога аб'яднання?

— Там, дзе ўпарта адварочваюцца ад аднаго голасу, пабаяцца не пачуць хор. Тым больш, калі гэты хор будзе ў дастатковай ступені зладжаным.

– Але ж ёсць прэцэдэнт, калі Вярхоўны Савет адмовіўся слухаць галасы амаль паўмільёна жыхароў Беларусі...

— Прабач, ёсць прэцэдэнт, калі тры чалавекі адмовіліся выслухаць 50 працэнтаў насельніцтва нашай рэспублікі, я маю на ўвазе вынікі рэферэндуму 17 сакавіка 1991 года аб захаванні Саюза. Так што прэцэдэнты ў нас ёсць самыя розныя. Але ж з іншага боку здараецца і такое: неарганізаваны рабочы рух раптоўна арганізаваўся, стаў рэальнай сілай, з якой прыйшлося лічыцца нават парламентарыям. І узгадайце, як прадстаўнікі страйкама, невядома кім сфарміраванага, апынуліся на сесіі і былі выслуханы! Зноў жа, неарганізаванае студэнцтва змяло два ўрады запар у нашых паўднёвых суседзяў на Украіне — урад Масола і ўрад Фокіна. У дадзеным выпадку з інтарэсамі студэнцтва спляліся інтарэсы пэўных палітычных колаў. І дзе гарантыя, што наш маладзёжны рух не стоміцца ад таго, што на яго не звяртаюць увагі, і стане ў апазіцыю да афіцыйных уладаў? Тым больш, што зараз апазіцыйныя групоўкі, ад БНФ і да ПКБ, маюць амаль адзіны накірунак сваіх інтарэсаў — ва ўмовах суверэнітэту дабіцца адстаўкі Вярхоўнага Савета, датэрміновых выбараў. Не магу сказаць, што маладзёжны рух зараз знаходзіцца ў апазіцыі да беларускага парламента па простай прычыне: разам з парламентам сыдзе і ўрад, які ў пэўнай ступені стабілізуе абстаноўку. Мы больш марудна, чым Расія, спаўзаем у бездань. Гэта азначае, што выкарасквацца з яе нам таксама будзе цяжэй, але мы паспеем апомніцца, азірнуцца вакол, магчыма, проста не панясём такіх страт, як іншыя...

Калі ўжо такія палітыкі, як Вольскі, Траўкін, Руцкой і іншыя члены Палітсавета Грамадзянскага Саюза, своечасова ўцямілі, што такое арганізаваная маладзёжная сіла, якая мае свае структуры (а Расійскі Саюз моладзі таксама сярод заснавальнікаў ГС), дык ёсць гарантыя, што 15 аб'яднаных маладзёжных суполак, якія сядуць за адзіны "круглы стол", дамовяцца паміж сабой і выберуць адзіную палітычную арыентацыю, змогуць уплываць на сітуацыю. СМБ не палітычная арганізацыя, але мы займаемся сацыяльнымі праблемамі, а гэта значыць сацыяльнай палітыкай. У выпадку неабходнасці мы зможам вывесці на тую ж самую плошчу Незалежнасці многія тысячы чалавек.

– Вы камусьці пагражаеце?

— Ратуй Божа! Як грамадзянін, я ведаю толькі адно: зараз мы ўсе зацікаўлены ў стабільнасці. Але заўсёды трэба разбірацца, якую ўладу мы маем. Улада ж у першую чаргу павінна думаць, пралічваць усе варыянты развіцця грамадства. Зараз на чале ўлады ў нашай рэспубліцы стаяць тэхнары, практыкі, а менавіта тэхнарам уласціва лічыць, параўноўваць і рабіць высновы на падставе фактаў. Не філолагам ці мастацтвазнаўцам кшталту Гамсахурдзія ці Ландсбергіса! Наколькі я ведаю, Вячаслаў Францавіч Кебіч якраз усё і падлічыў, бо збіраецца афіцыйна сустракацца з Нацыянальным саветам маладзёжных арганізацый, старшынёй Камітэта па справах моладзі, і мы ставімся да гэтай сустрэчы вельмі сур'ёзна, нават мяркуем прапанаваць увазе Саўміна пэўную справаздачу, напрыклад, аб становішчы моладзі на вёсцы. Сапраўды, СМБ — адзіная маладзёжная арганізацыя, якая ахоплівае не толькі гарадскую моладзь. Плюс да таго пытанне фінансавання маладзёжных праграм на месцах (наўрад ці хто-небудзь больш кампетэнтны ў гэтым, чым мы). Таму і сцвярджаю, што Старшыня Саўміна пралічыў, ува што можа выліцца няўвага да моладзі. Было б добра, каб яшчэ нашы парламентарыі трохі падумалі пра гэта.

– Дык, можа, раскрыем карты? Хто ж уваходзіць у Нацыянальны савет маладзёжных арганізацый, якая яго структура?

— Нацыянальны савет — гэта не арганізацыя, а пастаянна дзеючы "круглы стол". Што закладзена ў гэтым? Па-першае, немагчымасць узурпіравання права гаварыць адной якой-небудзь арганізацыі ад імя ўсяго савета. Менавіта таму прадугледжана абавязковая ратацыя яго старшыні. Цяпер старшынёй з'яўляецца Алесь Шавель. Па-другое, Нацыянальны савет павінен аб'яднаць палітычныя намаганні ўсіх суполак з мэтай, так бы мовіць, прабівання маладзёжных праграм. Тут вельмі дваякія адносіны Нацыянальнага савета да Камітэта па справах моладзі. Паколькі Камітэт дзяржаўны, Нацсавет вымушаны будзе часам станавіцца да яго ў апазіцыю. Гэта з аднаго боку, з другога — у Камітэта з'яўляецца вельмі моцная падтрымка ў выглядзе грамадскай думкі. Адно, калі старшыня камітэта будзе ўваходзіць у кабінет прэм'ера, толькі як яго падначалены. Другое, калі ў той жа кабінет уваходзіць чалавек, за плячыма якога стаяць 15 грамадскіх арганізацый. Тады ў паважанага Міхаіла Васільевіча Падгайнага з'яўляецца магчымасць вырашаць усе пытанні больш эфектыўна.

Добра было б стварыць фонд, куды ішлі б падаткі ад маладзёжных прадпрыемстваў, бо, калі яны трапляюць у агульны кацёл, моладзі выцягнуць іх адтуль проста не ўдасца. Адначасова і льготы МЖК у многім знялі б жыллёвае напружанне. Дзяржава павінна задавальняць жыллёвыя патрэбы звальняемых афіцэраў, і, натуральна, моладзі чакаць ужо няма чаго. З маладзёжнага фонду можна было б фінансаваць і першыя працоўныя месцы, асабліва на буйных прадпрыемствах, фінансаваць навучанне маладых спецыялістаў. А Нацыянальны савет у такіх умовах павінен заняць сваю нішу, займацца пытаннямі "сацыяльнай справядлівасці", кантраляваць выдаткі з Рэспубліканскага фонду моладзі. А што датычыць арганізацый, якія ўваходзяць у НСМА, дык гэта вядома ж, Саюз моладзі Беларусі, Саюз Скаўтаў Беларусі, Беларуская студэнцкая арганізацыя фізкультуры і спорту, Камітэт маладзёжных арганізацый, ЛКСМБ, Беларуская асацыяцыя маладых палітычных дзеячаў, Беларуская асацыяцыя міжнароднай працы моладзі, МЖК, Фонд міжнароднага маладзёжнага супрацоўніцтва... Арганізацыі ў дастатковай ступені прадстаўнічыя.

– Нягледзячы на такія перспектыўныя планы, цікавасць моладзі да грамадскіх арганізацый, і ў прыватнасці да СМБ, значна знізілася...

— Узгадайце, як прафсаюз народнай адукацыі вывеў на плошчу Незалежнасці настаўнікаў. Арганізацыя, якая ніколі не здавалася неабходнай, раптоўна такой стала. Мудрасць нашых прафсаюзаў у тым, што яны ўлавілі момант, калі могуць стаць неабходнымі. У нас жа... Так, большасці моладзі пляваць, ёсць мы ці не. Але Закон "Аб дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы" рыхтаваўся з нашым непасрэдным удзелам. Так, моладзі не цікава, што робіцца ў гэтым будынку, жывы яшчэ СМБ ці не. Але хто выступіў, напрыклад, з ініцыятывай правядзення ў Мінску ў наступным годзе фестывалю моладзі і студэнтаў? Хтосьці ж павінен быў гэтым займацца, нейкая арганізаваная група моладзі. Так было заўсёды. Існуе структура, тое, што ў нас называюць словам "апарат". Вакол гэтага апарату групуецца хай невялікая група актыву, але яна робіць пэўныя захады ў інтарэсах усёй моладзі. Кантакты моладзі трэба арганізоўваць! Самі яны не арганізуюцца. Памятаеце ў Вазнясенскага— "он хотел, закусив удила, свесть Америку и Россию. Но затея не удалась. За попытку — спасибо..." Дай бог, каб калі-небудзь хтосьці сказаў нам:"За попытку — спасибо".

Гутарку вёў Алесь ПАЛЫНСКІ.

## ТЭКСТ ВАЕННАЙ ПРЫСЯГІ, ЗАЦВЕРДЖАНЫ ПАСТАНОВАЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 10 ЛІСТАПАДА 1992 ГОДА.

**Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь (прозвішча, імя, імя па бацьку), знаходзячыся на службе ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь, прымаю прысягу і ўрачыста клянуся высока несці гонар і годнасць воіна Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, добрасумленна авалодваць ваеннай справай, быць мужным, верным і самаадданым абаронцам свайго народа, свята выконваць Канстытуцыю, законы і воінскія статуты.**

**Калі ж я парушу гэтую маю ўрачыстую клятву, то хай мяне спасцігне суровая кара закона і ўсеагульная пагарда народа.**

# УЦЕКАЧЫ Ў ПАГОНАХ

Чым адрозніваецца салдат ад кошкі? Не буду вас доўга інтрыгаваць. З папулярнага дзіцячага мульціка ўсім вядома, што гэта пушыстая жывёліна "гуляла сама па сабе". Узброены ж абаронца Айчыны свабодна перамяшчаецца толькі ў межах тэрыторыі воінскай часці. Але гэта тэарэтычна. На практыцы часцей за ўсё бывае наадварот. Аказваецца, маладому беларускаму войску ўласцівы згубныя рэцыдывы мінулых гадоў — колькасць уцекачоў у нашых часцях, на жаль, не скарачаецца.

Напрыклад, Г.Пальчэўскі з Гродна нядаўна паведаміў у рэдакцыю пра адзін забаўны выпадак з жыцця першай беларускай брыгады. Тут з узвода, якім камандуе лейтэнант Алег Старавойтаў, збег салдат. Прычым, нават не радавы, а малодшы камандзір. І прыйшлося афіцэру ў пошуках уцекача ехаць у Жодзіна. Аднак родныя беларуса малодшага сяржанта Анатоля Чубанава да прыезду ўзводнага паспелі ўладкаваць сваё дзіцятка даслужваць у вайсковую часць побач з домам. У выніку лейтэнант вымушаны быў вяртацца ні з чым: толькі час змарнаваў ды ўласныя грошы. З камандзіровачнымі зараз у арміі, самі ведаеце, цяжка. Дзякуй спагадлівым таварышам па службе — пусцілі шапку па кругу і ў складчыну кампенсавалі Старавойтаву выдаткі. Як быцам у іх гэтыя грошы былі лішнія?..

Што і гаварыць, падобныя прыклады ў апошні час усё часцей становяцца звыклымі і ўжо не выклікаюць былога абурэння і заклапочанасці дэзерцірствам з арміі. Вось аб чым, напрыклад, сведчыць невясёлая статыстыка, якую на адным з нядаўніх пасяджэнняў у раздзеле "Рознае" прывёў старшыня парламенцкай Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю народны дэпутат РБ М.Грыб. На працягу гэтага года ўжо 200 ваеннаслужачых, грамадзян нашай рэспублікі, самавольна пакінулі свае часці. Прычым сярод дэзерціраў больш за ўсё было прызыўнікоў з Мінскай вобласці. Самае сумнае, што для пяці салдат "самаволкі" скончыліся смерцю. Так званыя салдаты, якія гуляюць самі па сабе, уяўляюць сур'ёзную пагрозу для цывільнага насельніцтва: займаюцца крадзяжамі, здзекуюцца з безабаронных людзей. Падобных злачынстваў у арміі ў гэтым годзе зафіксавана амаль у чатыры разы больш, чым у мінулым.

А вы ведаеце, хто такія "пераводнікі"? Дык вось, яскрава выяўленымі носьбітамі крыміналу ў армейскім асяроддзі ў многіх выпадках з'яўляюцца менавіта салдаты, якія вяртаюцца даслужваць на радзіму з іншых рэспублік былога Саюза. Нярэдка яны на сваім шляху робяць доўгія самавольныя адлучкі з мэтай наведвання родных мясцінаў. Пры гэтым некаторыя ўступаюць у канфлікты з работнікамі ваенных камендатур і праваахоўнымі органамі. У лепшым выпадку такія "абаронцы" вяртаюцца ў воінскі строй дэмаралізаванымі, а ў горшым — папаўняюць рады дэзерціраў-злачынцаў. Дарэчы, у гэтым годзе звыш 300 беларускіх ваеннаслужачых асуджаны ваенным трыбуналам, а значыць столькіх абаронцаў мы недалічыліся ў баявым страі.

Вось такая невясёлая карціна. Няўжо нельга нічога супрацьпаставіць масавым выпадкам дэзерцірства, якое ва ўсе часы і ў любой арміі лічылася для воінаў ганебнай справай? Нядаўняя камандзіроўка ў Н-скі гарнізон даказвае адваротнае.

Намеснік камандзіра батальёна па выхаваўчай рабоце маёр В. распавёў аб тым, як ім удалося пазбавіцца ад уцекачоў у пагонах. А паколькі метады работы каму-небудзь могуць не спадабацца, то я вырашыў не называць канкрэтнага адраса і прозвішчаў дзеючых асоб.

Нельга сказаць, што ў батальёне маёра В. ніколі не было уцекачоў, а лепш будзе назваць, дэзерціраў. То "знікне" пад покрывам ночы салдат, прызваны з Азербайджана, то нястрымна пацягне на радзіму батыра з сярэднеазіяцкіх рэспублік, а то раптам услед за бацькамі, якія наведваліся ў падраздзяленне, накіруецца ў чачэнскую армію малады джыгіт... Карацей, батальён нёс "страты" ў асабістым саставе, нягледзячы на мірнае жыццё за вокнамі казармы. І з гэтым было цяжка змагацца. Ды і як утрымаеш салдата, які цвёрда вырашыў падацца ў родны край? Не прыставіш жа да кожнага на круглыя суткі камандзіра аддзялення. Патэнцыяльнага ўцекача не спыняць ні самы пільны нарад на КПП часці, ні самыя хітрыя замкі на дзвярах. Але і мірыцца з падобнымі фактамі ў батальёне не збіраліся, для гэтага выпрабавалі самыя розныя спосабы барацьбы з дэзерцірствам.



Вялі прафілактычную работу з патэнцыяльнымі мігрантамі ў блізкае замежжа, адпраўлялі гнеўныя пісьмы ў месцы жыхарства ўцекачоў, патрабуючы, каб іх родныя, работнікі міліцыі і ваенкаматы накіроўвалі назад абаронцаў суверэннай Беларусі. Але ўсё дарма... Нават з прыёмнай прэзідэнта Чачні не палічылі неабходным адказаць на пасланне, у якім камандаванне батальёна ўказвала на недапушчальнасць укамплектавання сваёй нацыянальнай арміі за кошт дэзерціраў з іншых рэспублік. І ўсё ж выйсце з няпростай сітуацыі было знойдзена — больш пра ўцекачоў у гэтым батальёне не ўспамінаюць.

Як гэта ім удалося?

— А вельмі проста, — адкрыў мне невялікую ваенную хітрасць маёр В. — Мы пачалі накіроўваць салдат у кароткатэрміновыя водпускі за добрасумленную службу. А перад ад'ездам, калі высвятлялі пра намер перайсці ў нацыянальныя арміі, прасілі зрабіць усё афіцыйна. Менавіта так яны і рабілі. Хутка на імя камандзіра прыходзілі афіцыйныя пісьмы, дзе паведамлялася, у якой часці зараз праходзяць службу нашы выхаванцы. І больш ніякага дэзерцірства!

Вось як вырашылі набалелую для нашых Узброеных Сіл праблему ў адным асобна ўзятым батальёне. Магчыма, гэта і не самае лепшае выйсце з крызіснай сітуацыі, але тым не менш дзейснае. А што будзе ў далейшым — пакажа час. Але зразумела адно, што толькі сур'ёзная ўвага да пакета ваенных законаў на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета і папаўненне іх прававым зместам дапаможа затармазіць рост злачыннасці і дэзерцірства ў армейскім асяроддзі, закласці аснову для будаўніцтва здаровых і дысцыплінаваных Узброеных Сіл. Інакш мы яшчэ доўга не пазбавімся ад салдат, якія гуляюць самі па сабе.

Аляксей БЕЗВЯСЕЛЬНЫ.

## ВАЙСКОВЫ ЧАСОПІС? ПАДТРЫМАЕМ!

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны абмеркавала прапанову ваенных журналістаў аб выданні беларускага ваенна-гістарычнага, мастацка-публіцыстычнага і ваенна-тэарэтычнага часопіса "Пагоня". Ініцыятыва ўхвалена. Хацелася б спадзявацца, што кіраўніцтва Міністэрства абароны РБ таксама станоўча паставіцца да ідэі часопіса і дапаможа ў яго выданні.

З.СЛАБАДСКІ.

## ЗАКОНЫ І ПАСТАНОВЫ ПА ВАЙСКОВАМУ ПЫТАННЮ, ПРЫНЯТЫЯ Х СЕСІЯЙ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

1. Пастанова "Аб парадку праходжання ваеннай службы афіцэрамі — грамадзянамі Рэспублікі Беларусь за межамі Рэспублікі Беларусь".
2. Закон "Аб абароне".
3. Закон "Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь".
4. Закон "Аб пагранічных войсках".
5. Закон "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе".
6. Закон "Аб статусе ваеннаслужачага".
7. Закон "Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых".
8. Закон "Аб унутраных войсках Рэспублікі Беларусь".
9. Пастанова "Аб тэксце прысягі на вернасць народу Рэспублікі Беларусь".

## СТАТУТ І СТАТУС

Не сакрэт, што сярод вайскоўцаў Беларусі ўкараніўся песімізм у адносінах да далейшых перспектыў іхняй службы. Сапраўды, крызіс не абмінуў Узброеныя Сілы, ды й не мог абмінуць, бо праблемы войска ёсць толькі адбітак праблем усяго грамадства. І пакуль крызіс не будзе пераможаны, не настане паляпшэнне і ў войску. Што ж робіцца для таго, каб закласці для яго аснову? Справа ў тым, што да апошняга часу не існавала надзейных, усеабдымных законаў, грунтуючыся на якія вайскоўцы маглі б усведамляць не толькі свой абавязак – абараняць Радзіму, але і свае правы.

Цяперашняя сесія Вярхоўнага Савета прыняла шэраг дакументаў, важнасць якіх для вайскоўцаў цяжка пераацаніць. Самыя грунтоўныя з іх, самыя блізкія да патрэбаў людзей у вайсковай форме – законы "Аб Статусе ваеннаслужачага", "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе".

Часам нашы заканадаўцы дапускаюць у сваёй рабоце брак. Хацелася б спадзявацца, што на гэты раз блін камяком не атрымаўся. У законах, узровень якіх не ніжэйшы, чым нарматыўныя акты такога ж плана ў замежных краінах, падкрэсліваецца прыярытэтны і асаблівы характар вайсковай службы: "Зыходзячы з высокіх дзяржаўных мэт, што заключаюцца ў гарантаванні бяспекі і незалежнасці дзяржавы, устанаўліваецца прыярытэт ваеннай службы перад іншымі відамі дзяржаўнай службы і працоўнай дзейнасці, які заключаецца ў спыненні грамадзянамі работы, вучобы, службы і іншай дзейнасці на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, незалежна ад форм уласнасці і ўмоў гаспадарання пры прызыве або добраахвотным паступленні на ваенную службу". Закон "Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе", цытату з якога вы толькі што прачыталі, устанаўлівае наступныя тэрміны ваеннай службы: для ваеннаслужачых, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу і не маюць вышэйшай адукацыі, – 18 месяцаў. Пры наяўнасці вышэйшай адукацыі тэрмін скарачаецца да 12 месяцаў. Ваеннаслужачыя, якія праходзяць службу па кантракту на пасадах радавога і сяржанцкага саставу, будуць служыць 2 гады, прапаршчыкі і мічманы – 5 гадоў, афіцэры таксама 5 гадоў па першаму кантракту пасля заканчэння ВВУ.

Законы, прынятыя Вярхоўным Саветам, рэгламентуюць адносіны паміж Узброенымі Сіламі і дзяржавай. Адносіны ж паміж самімі вайскоўцамі павінны рэгулявацца вайсковымі статутамі. Сапраўды, вызначыўшы статус ваеннаслужачага, акрэсліўшы правы і абавязкі апошняга ў адносінах да дзяржавы, застаецца не менш значная задача: кадыфікаваць службовыя адносіны, прыняць законы, так бы мовіць, унутраныя. Пакуль у беларускіх Узброеных Сілах дзейнічаюць статуты яшчэ савецкага часу. Не сакрэт, што ў многім яны састарэлі і не адпавядаюць патрабаванням часу.

Як жа прадпісваюць новапрынятыя законы выхоўваць асабовы склад Узброеных Сіл? Ці будзе магчыма ў войску палітычная дзейнасць, ды й увогуле, на якой мове пачнуць аддаваць загады? У артыкуле № 8 Закона "Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь" чытаем: "Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь выкарыстоўваецца беларуская і руская мовы з паступовым пераходам на дзяржаўную мову ў адпаведнасці з Законам "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

Ваенна-патрыятычнае і маральна-псіхалагічнае выхаванне ваеннаслужачых грунтуецца на агульначалавечых каштоўнасцях, нацыянальна-гістарычных традыцыях беларускага народа.

Дзейнасць якіх-небудзь партый, грамадска-палітычных рухаў і іншых арганізацый, якія праследуюць палітычныя мэты, ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь забараняецца".

Такім чынам, законы ў наяўнасці. Але не варта лічыць, што дзяржава цалкам выканала свае абавязкі перад вайскоўцамі. Як мы ведаем, найбольш хвалюючая для іх праблема – дзе жыць і чым карміць сям'ю. Афіцэры беларускага войска – гэта плоць ад плоці нашага народа. Хацелася б верыць, што і народу не будзе сорамна за сваіх абаронцаў, і абаронцам нашым не прыйдзецца чырванець за народ, які не змог іх пракарміць.

Алесь ПАЛЫНСКІ.

## ЭКАЛАГІЧНАЯ ХРОНІКА

### КАБ ЖЫЛА ПЛАНЕТА ЗЯМЛЯ

На пленарным пасяджэнні 47 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН адбываецца зацікаўленае абмеркаванне 79 пункта парадку дня "Даклад канферэнцыі ААН па навакольнаму асяроддзю і развіццю". У дыскусіі выступіў пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Генадзь Бураўкін.

Ён сказаў, што наша рэспубліка, якая на сабе "выпрабавала" вынікі адной з буйных тэхнагенных катастроф XX стагоддзя – чарнобыльскай, разглядае ажыццяўленне "Парадку дня на XXI стагоддзе" і "Дэкларацыю Рыо-дэ-Жанейра" ў якасці доўгатэрміновай мэты нацыянальнай унутранай і знешняй палітыкі.

Генадзь Бураўкін паведаміў аб тым, што ўрад рэспублікі распрацаваў бачную стратэгію рацыянальнага прыродакарыстання і аздараўлення навакольнага асяроддзя. Прымаецца новае прыродаахоўнае заканадаўства, укараняюцца эканамічныя метады кіравання аховы прыроды і прыродакарыстання. Пачата праца па стварэнню сістэмы экалагічнага маніторынга.

У заключэнне ён заявіў:

– Народ Беларусі заўсёды з вялікім разуменнем адносіўся да болі іншых. Нашая трагічная і крывавая гісторыя навучыла людзей суперажываць і разумець праблемы іншых не менш, чым свае. Менавіта таму Беларусь заяўляе аб поўнай падтрымцы і зацікаўленасці работай будучай камісіі па ўстойліваму развіццю. Мы хацелі б удзельнічаць у рабоце і просім дэлегацыі дзяржаў – членаў ААН падтрымаць кандыдатуру Беларусі.

### "СТОМЛЕНЫЯ ГАРАДЫ"

Мэта разглядаемага ў Берліне праекта "Стомленыя гарады" – выпрацаваць сумесную методыку барацьбы з забруджваннем буйных індустрыяльных цэнтраў, у тым ліку Масквы і Берліна. Мяркуецца, што да гэтай ініцыятывы далучацца і прадстаўнікі іншых мегаполісаў планеты.

### ІНФАРМАЦЫЙНЫ БАНК ІНВАЛІДАЎ

Грамадская арганізацыя "Аб'яднанне інвалідаў Чарнобыля" стварыла інфармацыйны банк даных, які ўключае ўсіх інвалідаў Беларусі. Банк утрымлівае асноўныя медыцынскія і сацыяльныя звесткі пра ахвяры катастроф. Большасць пацярпеўшых мае III групу. Першая група – у 10 працэнтаў ад агульнай колькасці. Асноўнымі прычынамі смерці сярод інвалідаў з'яўляюцца хваробы сістэмы кровазвароту і анкалагічныя захворванні.

### ЭКАЛАГІЧНАЕ БРАТЭРСТВА З БРАЦЕЕВА

Будаўніцтва Маскоўскага метрапалітэна на вуліцы Мусы Джаліля блакіруецца мясцовымі жыхарамі па закліку экалагічнай групы камітэта самакіравання раёна Брацеева. Мясцовыя эколагі сцвярджаюць, што, калі будаўніцтва не будзе спынена, Маскву чакаюць катаклізмы, якіх яна не ведала з часоў вайны. Ветку метро пракладваюць праз былую гарадскую звалку, дзе, па іх меркаванню, накапілася вялізная колькасць метану (у выніку гніення адходаў). Паводле ацэнкі экспертаў, адбудуцца жахлівыя выкіды газу і, верагодна, – выбух, і не толькі газу, але і трубапровада, які вядзе да нафтасховішча, што размешчаны недалёка.

### НА ЭКАЛОГІЮ ТРАЦІМ УСЁ МЕНШ

Паводле даных Дзяржкамэкалогіі, у Беларусі паступова скарачаецца фінансаванне прыродаахоўных мерапрыемстваў. Калі яшчэ ў 1989 годзе на гэтыя мэты ў рэспубліцы траццілася 0,67 працэнта валавога нацыянальнага прадукту, то ў 1991 годзе гэта лічба скарацілася да 0,5 працэнта.

Пастаянная камісія ВС па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў распаўсюдзіла сярод народных дэпутатаў даведку Дзяржкамэкалогіі, спецыяльна скіроўвае ўвагу на тое, што Беларусь адзіная ў Еўропе краіна, якая не вызначыла стабільныя крыніцы фінансавання прыродаахоўнай дзейнасці.

# НЕАРОНДЭКС. ШТО ГЭТА?

## Кароткая гісторыя аднаго адкрыцця

Аўтамабільная катастрофа адбылася пры выездзе з Мінска па Магілёўскай шашы. Праз 20–30 хвілін машына "хуткай дапамогі" з пацярпеўшым стаяла ля прыёмнага пакоя 9-й клінічнай бальніца. І вось ужо аперацыйны хірургічны блок. Папярэдні дыягназ урачоў быў пацверджаны на аперацыйным стале. Трыццацігадовы Л., што трапіў у аўтакатастрофу, атрымаў сур'ёзную траўму – разрыў селязёнкі, якую прыйшлося выдаліць. Вельмі турбавала медыкаў і вялікая страта крыві – каля двух літраў. У арсенале рэаніматолага быў новы кровазамяняльнік – неарондэкс, які нядаўна паступіў для клінічных выпрабаванняў. Яго і ўключыў урач Д.А.Зялкоўскі ў комплекс інтэнсіўнай тэрапіі. Вырашылася асноўная задача рэаніматолага – папоўніць недастатковы аб'ём крыві ў арганізме пацярпеўшага і дапамагчы яму выйсці з экстрэмальнага стану. Ды і наколькі эфектыўна ў дадзеным выпадку праявіць сябе гэты, яшчэ пакуль зусім незнаёмы прэпарат – неарондэкс?

Між тым, кровазамяняльнік хутка садзейнічаў падняццю артэрыяльнага ціску, папаўненню аб'ёму цыркулюючай вадкасці ў арганізме, паляпшэнню гемадынамічных паказчыкаў, мікрацыркуляцыі, аднаўленню дыурэзу. Надзея на выратаванне ўсё павялічвалася... І ў хуткім часе хворы быў выпісаны з клінікі зусім здаровым.

...Такім чынам, упершыню ў СНД распрацаваны паўфункцыянальны кровазамяняльнік неарондэкс па прынцыпова новай тэхналогіі, які валодае шырокім спектрам лекавых уласцівасцей. Ён створаны групай супрацоўнікаў Інстытута фізіка-арганічнай хіміі Акадэміі навук Беларусі пад кіраўніцтвам кандыдата хімічных навук Пятра Цімафеевіча Пятрова і Навукова-даследчага інстытута гематалогіі і пералівання крыві Міністэрства аховы здароўя рэспублікі пад кіраўніцтвам кандыдата медыцынскіх навук Уладзіміра Мікалаевіча Гапановіча, сумесна з ВА "Белмедпрэпараты".

Новы прэпарат паспяхова вытрымаў доўгатэрміновую праверку на практыцы ў вядучых медыцынскіх установах. Латвійская медыцынская акадэмія, 9 і 10-я клінічныя бальніцы Мінска, Ваенна-медыцынская акадэмія Санкт-Пецярбурга, у якіх былі праведзены клінічныя выпрабаванні неарондэкса, пацвердзілі яго высокія лекавыя ўласцівасці і важнасць для практычнай медыцыны. Характэрна і тое, што ў працэсе даследавання гэтага кровазамяняльніка ў Рыжскай гарадской клінічнай бальніцы "хуткай дапамогі" навуковы кіраўнік аддзялення рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі, прафесар С.М.Маргуліс і загадчык гэтага аддзялення В.Б.Саўчанка выявілі дадатковыя ўласцівасці лекавай эфектыўнасці неарондэкса. У ацэнцы вынікаў клінічных выпрабаванняў прэпарата яны адзначаюць, што "...інфузіі кровазамяняльніка далі магчымасць паменшыць праяўленне эндагеннага таксікозу, спрасцілі выкананне хірургічных умяшанняў, а таксама станоўча ўздзейнічалі на працэс загойвання пасляаперацыйных ран".

Група радыяцыйнай хіміі палімераў медыцынскага прызначэння Інстытута фізіка-арганічнай хіміі. Яе кіраўнік, адзін з распрацоўшчыкаў неарондэкса, П.Ц.Пятроў дэманструе сам прэпарат. У флаконе — звычайная на выгляд празрыстая вадкасць. На этыкетцы надпіс: "Аб'яднанне Белмедпрэпараты. Неарондэкс. Плазмазамяняльны раствор. Карэктар гемадынамічных парушэнняў". І літара "Р", якая стаіць у правым кутку. Гэта азначае, што прэпарат ужо ўнесены ў Дзяржаўны рэестр лекавых сродкаў, прапанаваны да шырокага клінічнага прымянення.

Неарондэкс, змешчаны ў кварцавую кювету, устанаўліваецца ў поле ярка-зялёнага проміня святла фотагоніяметра. Чуецца некалькі шчаўчкоў тумблера — і кантралюючае ўстройства "аб'язджае" вакол кюветы. На стужцы самапісца з'яўляецца складанай канфігурацыі лінія. Гэта і ёсць "партрэт" малекулы рэчыва — асновы кровазамяняльніка. У гэтым эксперыменце ўдзельнічаюць адначасова некалькі вынаходнікаў, якія дапаўняюць адзін аднаго. Калі кіраўнік распрацоўкі П.Ц.Пятроў вывучае важнейшыя заканамернасці механізмаў накіраванай мадыфікацыі палімера, то навуковы супрацоўнік групы М.П.Лапкоўскі, твар якога скрыты ахоўнай маскай, праводзіць кантроль прэпарата на адсутнасць мікрапрымесей. Тут жа за паказаннямі храматографа ўважліва сочыць і фіксуе вынікі доследу інжынер Т.Н.Забела. Ідзе вывучэнне мноства паказчыкаў неарондэкса, сярод якіх няма другарадных. І ад кожнага з іх, у выніку, залежыць якасць прэпарата.

— Уявіце сабе, — тлумачыць П.Ц.Пятроў, — усё гэта нам неабходна, каб надаць індывідуальны характар канструюемай малекуле, прадказаць яе сумяшчальнасць з клеткамі крыві чалавека і наогул паводзіны ў арганізме. Малекулы поліцукрыду, якія атрымліваюцца па распрацаванаму намі спосабу, акрамя асноўных функцый, павінны яшчэ выконваць у арганізме работу "міні-грузавікоў", якія выдаляюць шкодныя рэчывы.

Аднак задоўга да таго моманту, калі неарондэкс трапіў у рукі вытворцаў, былі праведзены яго паглыбленыя медыка-біялагічныя выпрабаванні ў НДІ гематалогіі і пералівання крыві. Літаральна дні і ночы тут, на працягу амаль трох гадоў, ішоў актыўны творчы пошук даследчыкаў пад кіраўніцтвам аднаго са стваральнікаў новага кровазамяняльніка, загадчыка лабараторыі эксперыментальнай паталогіі і трансфізіялогіі У.М.Гапановіча.

— Мэта нашага доследу, — тлумачыць У.М.Гапановіч, — ацаніць эфектыўнасць неарондэксу пры масіўнай, абсалютна смяротнай для арганізма страце крыві.

Паддоследны сабака Ласка са шматлікімі замацаванымі на целе электродамі ўжо на аперацыйным стале. Навуковыя супрацоўнікі лабараторыі І.М.Жук і А.А.Кніга ўводзяць у прасвет сцегнавых суставаў спецыяльныя трубачкі — катэтары. Ідзе рэгістрацыя тонуса сасудаў, дзейнасці сэрца, велічыні артэрыяльнага ціску, хуткасці кроватоку па самых маленькіх сасудах — капілярах. Бачу, як тоненькія струменьчыкі крыві з арганізма цяпер паступаюць у флаконы. Напоўнены адзін, другі, трэці... Кіраўнік эксперыменту лаканічна паведамляе... — узята 40, 50, 60 працэнтаў крыві. Літаральна на маіх вачах адбываецца рэзкае пагаршэнне стану жывёліны...

— Спынена дыханне, — дакладвае І.І.Жук. Клінічная смерць.

У лічаныя секунды быў падключаны апарат штучнага дыхання, наладжаны закрыты масаж сэрца, а ў арганізм жывёліны ўжо пачаў паступаць неарондэкс. І літаральна праз некалькі хвілін "ажылі" стрэлкі прыбораў.

— Мы правялі сотні эксперыментаў, — тлумачыць У.М.Гапановіч, — вывучалі практычна ўсе кровазамяняльнікі на аснове поліцукрыдаў, якія выраблююцца ў нас і паступаюць з-за мяжы. І што ж? Распрацаваны прэпарат не толькі не ўступае аналагам, але і па многіх лекавых уласцівасцях іх пераўзыходзіць. У арсенале медыкаў пакуль няма кровазамяняльніка, які б мог адначасова ўплываць на аднаўленне сістэмнай гемадынамікі і тканкавага кровацёку. Звычайна для гэтага выкарыстоўваюцца некалькі асобных раствораў. Неарондэкс жа аб'ядноўвае лепшыя якасці іх уласцівасцей. Нездарма фармакалагічны камітэт ахарактарызаваў новы кровазамяняльнік як "карэктар гемадынамічных парушэнняў".

...Ну а што ж наш "пацыент"? Да канца эксперыменту асноўныя паказчыкі жыццядзейнасці жывёліны нармалізаваліся, сабака мог самастойна рухацца, праявіў цікавасць да навакольнага.

З лабараторый вучоных у практыку прыйшла новая каштоўная распрацоўка, вельмі неабходная для цяжкахворых. Але ці хутка дойдзе да клінік? І якая адзнака тэхналагічных магчымасцей вытворчасці неарондэксу?

— Мы з задавальненнем узялі ў вытворчасць распрацаваны кровазамяняльнік, так неабходны людзям, — адказвае генеральны дырэктар ВА "Белмедпрэпараты", доктар фармацэўтычных навук Валерый Мінавіч Царанкоў. Ён адпавядае патрабаванням сучаснай фармацэўтычнай тэхналогіі. Да канца гэтага года плануем выпусціць 100 тысяч флаконаў неарондэксу. Гатовы задаволіць у ім патрэбы практычнай медыцыны.

Міхась ЛІБІНТАЎ.

Экалагічную старонку "НЕРУШ" вядзе Віталь ДАЛІДОВІЧ.

*А як у "іх"?*

# ДЖОРДЖ БУШ НЯСЕ ЛУХТУ ПРА АБАРОНУ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

## ЯК ПРЭЗІДЭНТ ЗША ПАДМАНВАЕ СЯБЕ І СВОЙ НАРОД

Паводле амерыканскай газеты "Нью-Йорк таймс", краіна якой з'яўляецца пачынальнікам экалагічнага руху "партыі зялёных", становіцца вядома, што амерыканскі прэзідэнт памыляецца, калі гаворыць, што ЗША і цяпер з'яўляецца лідэрам па пытаннях абароны навакольнага асяроддзя. Эканамічныя сапернікі Амерыкі ведаюць, што палітыкам давядзецца засвоіць адно: абарона навакольнага асяроддзя – гэта ўсеагульная эканамічная неабходнасць. Тая краіна, якая найлепшым чынам змагаецца з гэтай праблемай, у XXI стагоддзі стане лідэрам у эканоміцы.

Лідэрства цяпер жа перайшло да Германіі і Японіі, як сцвярджае "Нью-Йорк таймс", чые афіцыйныя асобы бачаць у абароне навакольнага асяроддзя магчымасць для эканамічнага развіцця краіны, а не бар'ер да яе росту.

Нормы забруджвання паветра ў Японіі і ФРГ амаль у чатыры разы стражэйшыя, чым у ЗША. Не трэба здзіўляцца, што ў Японіі, а за ёй і ў Германіі самыя чыстыя і эфектыўныя электрастанцыі і сталевыпрацоўчыя заводы. ЗША на трэцім месцы і працягваюць адставаць.

Сярод буйных аўтамабільных кампаній гэтых краін па расходах паліва першае месца па эканамічнасці трымае "Toyota", за ёй – "Volkswagen". Буйнейшая аўтамабільная кампанія Амерыкі "General Motors" са значным адставаннем на 3 месцы. Дзе самы строгі кантроль над ядахімікатамі? У Еўропе. Самыя жорсткія праграмы па перапрацоўцы адходаў? Там жа. Для пашырэння канкурэнтаздольнасці японцы аб'ядналі намаганні бізнесменаў і ўрада, накіраваўшы ўсе сілы на паскоранае развіццё тэхналогіі і продаж іх за мяжу. Немцы распрацавалі інструкцыі, якія патрабуюць ад прамысловасці і гараджан шырокамаштабных мер па зніжэнню выкідаў у атмасферу. Праз шэсць гадоў кожная электрастанцыя ў краіне павінна панізіць выкіды ў паветра на 90 працэнтаў дзякуючы выкарыстанню спецыяльных прыстасаванняў – фільтраў, якія затрымліваюць выкіды рэчываў, што выклікаюць кіслотныя дажджы. Рэчывы, атрыманыя ў выніку работы гэтых фільтраў (якія ў ЗША лічацца адходамі), у Германіі высушваюцца і выкарыстоўваюцца ў будаўнічых растворах і гіпсавых плітах. Вынікі – эканоміка, якая не забруджвае асяроддзе і спецыялізуецца на выбары праграм і тэхналогій, за якімі ганяюцца ва ўсім свеце.

Эканоміка ЗША працягвае сядзець на двух кітах: таннай нафце і неўмяшанні ўрада. Ініцыятарам гэтай палітыкі з'явіўся Рональд Рэйган, а Джордж Буш працягвае яе. Вынікам стала глабальнае перасоўванне амерыканскіх тэхналогій у іншыя краіны. Нагадаем. У 1980 годзе ЗША былі буйнымі ў свеце вытворцамі сонечных фотаэлементаў, якія давалі магчымасць вырабляць электраэнергію з сонечных промняў. (Сёння Японія далёка наперадзе. ФРГ наступае на пяткі). Тэхналогія кантролю за выкідамі электрастанцый створана амерыканскай фірмай "Corning". (Прададзена за мяжу, у Японію, а потым у Германію). Паліўныя элементы – чыстае, бясшумнае і звышэфектыўнае прыстасаванне, якое дае магчымасць атрымліваць электраэнергію ў выніку хімічнай рэакцыі (іх вытворчасць цяпер наладжана ў Японіі). Яны не былі асвоены ў ЗША таму, што ўрад ігнаруе пытанні экалогіі і спосабы іх вырашэння. У выніку прадукцыя, якая была створана дзякуючы амерыканскаму наватарству і аплачана падаткаплацельшчыкамі, сістэматычна прадаецца замежным перакупшчыкам.

Ахова навакольнага асяроддзя – гэта сусветная рэальнасць. Амерыка, якая некалі была лідэрам у гэтым пытанні, сёння на другіх ролях.






Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№19 (209)

*Праблема*

# ПАД ЧЫЮ ДУДКУ ТАНЦАВАЦЬ?

Моцны мы народ, беларусы! За дзесяцігоддзі дэнацыяналізацыі і амаль што поўнай забароны нашай мовы і культуры ўсё ж змаглі захаваць непаўторны каларыт і нацыянальную своеасаблівасць нашага мастацтва. Значэнне фальклору як культурнай спадчыны і разам з тым сучаснай народнай творчасці як матэрыялу, што адыгрывае важную ролю ў вывучэнні філасофіі народа, ягонай гісторыі і мастацтва, цяпер стала тэарэтычна агульнапрызнаным, але практычна традыцыйны фальклор усё больш імкліва знікае з нашага жыцця. Звяртанне да фальклору ўсё больш асэнсоўваецца як праблема вялікай складанасці, бо дачыненне да нашай спадчыны – няпросты творчы акт. Сёння і танцавальны фальклор прыкметна знікае з нашага побыту. Асабліва моцна гэты працэс закранае самыя цікавыя і каштоўныя, а часта – унікальныя па музычна-паэтычнай мове старажытныя беларускія танцы.

1 студзеня 1981 года загадам Міністэрства культуры БССР і Міністэрства вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР у Мінскім інстытуце культуры была створана галіновая навукова-даследчая лабараторыя пад кіраўніцтвам доктара мастацтвазнаўства, прафесара Ю.М.Чурко. Асноўны навуковы накірунак – вывучэнне беларускай народнай танцавальнай творчасці. Збор і даследаванне нацыянальнага фальклорнага матэрыялу, стварэнне своеасаблівага харэаграфічнага атласа рэспублікі – актуальная задача, у вырашэнні якой мае патрэбу нацыянальная харэаграфічная культура. Нягледзячы на тое, што ў рэспубліцы прапагандзе і вывучэнню танцавальнага фальклору заўсёды надавалася вялікае значэнне, але збіранне яго вялося не планамерна і не сістэматычна, не вялася пастаянная і мэтанакіраваная работа па збору і вывучэнню ўзораў народнай танцавальнай творчасці. З арганізацыяй ГНДЛ ствараліся ўмовы для работы ў гэтым накірунку.

Галоўная мэта навукова-даследчай работы– рэалізацыя танцавальнага фальклору ў практычнай дзейнасці харэаграфічных калектываў. На гэта былі накіраваны і штогадовыя фальклорныя экспедыцыі, у якіх, дарэчы, прымалі ўдзел студэнты харэаграфічнага аддзялення Інстытута. У калейдаскопе ўражанняў, у сумятні работы экспедыцый цяжка адразу вызначыць галоўнае, бо змешваецца ўсё: штодзённыя арганізацыйныя клопаты, сустрэчы з жыхарамі беларускіх вёсак... Але, праглядваючы фальклорныя запісы, кінастужкі і фотаздымкі, слухаючы запісаную музыку, пачынаеш разумець, што ўсё гэта асвятляецца нязгасным святлом сустрэч з людзьмі і іхняй творчасцю, якая западае ў душу, з цудоўным мастацтвам народнага танца.

Але, на жаль, сёння ўсё гэта ўжо адышло ў гісторыю. Не абмінуў наш базарны рынак ні навуку, ні мастацтва. Вось ужо хутка два гады мінуць з таго часу, як лабараторыя практычна перастала існаваць. Штодзённыя шматлікія дэфіцыты, няўвага бюракратаў міністэрстваў зрабілі сваю справу. У выніку дзесяцігадовая праца навукоўцаў, студэнтаў, аматараў беларускага харэаграфічнага мастацтва ляжыць мёртвым грузам на паліцах. А гэта, дарэчы, больш чым 1500 адзінак захавання харэаграфічных, музычных і паэтычных узораў, большасць з якіх сёння амаль што не сустрэнеш. Вядома ж, цяжка сёння знайсці "велізарную кучу грошай", каб утрымліваць 2–3 навуковых супрацоўнікаў і арганізаваць 2–3 экспедыцыі ў год... Крыўдна і балюча, што лёс нашага мастацтва нагадвае лёс Папялушкі. Толькі ці складзецца ён так удала, як у казцы?..

Атрымліваецца так, што на шляху да нацыяналізацыі мы ствараем новыя інстытуты, камітэты, а тое, што ўжо зроблена, непрыкметна страчваем. Здзіўляюцца -балетмайстары-практыкі, дзіўуюцца навукоўцы, губляюць нешта незаменнае ў сваёй адукацыі студэнты... Мы чакаем ад нацыянальнай харэаграфіі нечага вялікага, незвычайнага, па-сапраўднаму высокамастацкага, а ў паўсядзённым жыцці што робім для гэтага?

Імкліва змяняецца свет вакол нас. Ужо адыходзяць у нябыт "Фальклорныя вечары", якія наладжваліся штогод кафедрай харэаграфіі Інстытута культуры на розных пляцоўках нашага горада. І хай не заўсёды ўсё было ўдала, хай часам перашкаджалі аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны, але ж заўсёды гэта было свята беларускай харэаграфіі, свята, якое чакалі гараджане.

Зразумела, працэй за ўсё заплюшчыць вочы, адысці ўбок, каб воз не вялікасці камерцыі выпадкова не раздавіў цябе; маўляў, ці да культуры цяпер? Але ж душа па роднай культуры баліць у таго чалавека, хто яшчэ яе не страціў. А такога сапраўднага чалавека мы згубілі ў нашых шматлікіх чэргах жыцця. Ад старой маралі мы спяшаемся адмовіцца, не навучыўшыся ствараць новай. Нацыю нашу, яе матчыну мову заснежылі гады, а мы кінуліся гуляць у біржы базарныя, што нагадваюць хутчэй іржавыя баржы без вугалю ў бруднай вадзе, што навват самы дасведчаны глядач сярод гэтай бурай пенкі не зможа разгледзець прыгожага твару багіні Тэрпсіхоры.



Сяржук КЛІМОВІЧ.
Фота У.ПАНАДЫ.

*Спяваем па-беларуску*

## ХМАРКІ

Музыка У.МАКАРЭВІЧА    Словы Ф.БАГУШЭВІЧА

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нідзе ж для вас няма хатанькі...
Адпачнеце аж у божанькі!

Гдзе радзіліся, гдзе ж вы, хмарачкі?
Гдзе "тутэйшымі" называліся?
Леціцё ўсё так, як ярачкі...
Хоць бы трошкі гдзе затрымаліся!

Зямлі родненькай, знаць, няма у вас,
Ні вугольчыка, ні прытулачку.
А тут вецер дзьме горшы раз у раз,
Леціцё жа вы без ратуначку...

Летучы, слязой зямлю росіце,
Аж шумяць лісткі, зеляне лес,
Уміраючы, жыццё носіце,
Усяму жыццё, сабе толькі крэс!




*Відэасалон*



Папулярны амерыканскі спявак Джэймс Браун, які выступае ў стылі "соул", на апошнім уручэнні прызоў "ГРЭМІ" Нацыянальнай акадэміі гуказапісу ЗША атрымаў спецыяльны прыз за ўклад у музычнае мастацтва.

НА ЗДЫМКУ: Джэймс Браун у час канцэрта ў швейцарскім горадзе Лугана.

Фота КЕЙСТАН.

# АЛЯКСЕЙ



## ПАЛЮБІЎ БАГАТЫ БЕДНУЮ

**Беларускі фальклор**

**Аранжыроўка А.ШАДЗЬКО**

Палюбіў багаты бедную,
А вучоны — ды без розуму,
Палюбіў румяны бледную,
А харошы — сэрцам грозную,
Залатар — паўгроша меднага.
Дзе ж, купец, сляды раскошы той?
На дзіравым донцы кошыка!
Дзе ж, гарблівец, плён навучанькі?
У дзявочых ласках ручанька!
Дзе ж магчыма, каб чырвоны жар
Растапіў на нерушы пажар?
З ланцужком дзе крыжык срэбненькі?
Пад абцасамі ты ў дзеванькі!
Ах, не любі багаты бедную,
А вучоны — без розуму,
Не любі румяны бледную,
А харошы — сэрцам грозную,
Залатар — паўгроша меднага.

Фотаплакат № 55

# ШАДЗЬКО

Імя Аляксея Шадзько ўзышло на музычным небасхіле Беларусі яшчэ ў канцы 80-х гадоў. Напрыканцы 1988 года гродзенскі гурт "Рада", у якім і спяваў А.Шадзько, выступіў у музычным шоу "Нон-стоп-88" на сцэне Менскага палаца спорту побач з "Бондай" (Беларусь), "Рыэл Дыл" (Нямеччына), "А'віа" (Расія) і іншымі вядомымі выканаўцамі.

Пазней спявак працаваў у менскім рускамоўным гурце "Доктар Моро", з якім выйшаў у лідэры гіт-парада радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" і трапіў на зборны альбом 2ЛП беларускага рока, які выйшаў на фірме "Мелодыя" ў 1990 годзе.

На жаль, як спяваў адзін рок-выканаўца, "цяжка быць паслом рок-н-рола ў нерытмічнай краіне". І з Беларусі лёс зводзіць Аляксея Шадзько ў Піцер,.. дзе адразу з'яўляюцца і якасныя фанаграмы, і дыхтоўныя відэакліпы.

У 1991 годзе А.Шадзько вяртаецца ў Беларусь і прымае ўдзел у фэсце "Беларускі рок вітае незалежнасць".

У хуткім часе, аднак, зноў клічуць "рытмічныя краіны": разам з А.Кузьміным ("Мясцовы час") Аляксей Шадзько падпісвае дамову на працу ў Швецыі.

Фота Зміцера ЛУКАШУКА.





# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

(Пачатак у №№ 34 – 36, 38 – 49).

8 верасня надышоў чаканы першы дзень волі. Пад брамай турмы на Ракавецкай яго чакалі бацька і маці. Ён заўважыў, як моцна змяніліся яны за гэтыя паўгода. У бацькі пабольшала сівізны, у маці — маршчын на лбе. Абое былі нейкія пашарэлыя, разгубленыя... Так, хваляванні і ўсё, што яны перажылі за апошнія некалькі месяцаў, пакінулі на іх свой след.

Бацьку-пенсіянеру ўлада нічым асабліва дакучаць не магла. Але маці! Праз тры дні пасля арышту сына яна была звольнена з працы. Афіцыйнай прычынай было скарачэнне штатаў у сувязі з перабудовай структуры тэлевізіі, але прычыны яе звальнення былі зразумелыя ўсім. Тры месяцы шукала работы на пасадзе журналіста. І толькі ў пачатку ліпеня нехта са знаёмых прапанаваў ёй работу ў малазначным тыднёвіку.

Вяртанне дадому! Тыя паўгода адсутнасці падаліся яму цэлай вечнасцю. Хадзіў па кватэры, аглядваў яе як бы ўпершыню. Мэбля, кнігі, стол... І падручнік рымскага права, які ляжаў на стале (пра яго ён думаў у першыя гадзіны арышту)...

Вучоба, што будзе з вучобай? Вельмі добра здаў іспыты і залікі ў першым семестры, але ў пачатку красавіка бацькі атрымалі ліст, падпісаны дэканам факультэта права з паведамленнем аб выключэнні яго са спіса студэнтаў. Бацька і маці некалькі разоў хадзілі ва універсітэт з просьбамі аб скасаванні гэтага рашэння. Тлумачылі прычыну ягонай адсутнасці на занятках, фактычныя прычыны ягонага арышту і зняволення. Нічога не дапамагло.

Што цяпер ён меў рабіць? Выключыў маленькую лямпачку ля ложка і лёг спаць. У галаве мітусіліся думкі. Усё, што ён мае,— свае 19 гадоў і атрыманы ў мінулым годзе атэстат аб сярэдняй адукацыі. І ніякай адукацыі, ніякай прафесіі. Дарога да навукі закрыта...

Пачаў з візіту ва універсітэт. Размова з дэканам не дадала яму аптымізму. На аднаўленне, прынамсі ў бліжэйшы час, не меў ніякіх шанцаў.

— Добра разумею вашую праблему, але...,— дэкан быў выразна разгублены і не ведаў, як аргументаваць свае словы.— Пасля таго, што адбылося паўгода таму, мы не можам вас прыняць... Паглядзім, можа ў будучым здолеем нешта зрабіць. Мне вельмі прыкра...

Квяткоўскі адчуў, што ў час гэтага спаткання дэкан быў не менш разгублены, чым ён сам. У глыбіні душы прафесар мог быць нават на ягоным баку, але ён баяўся і таму не мог прыняць іншага рашэння.

Леон пачаў шукаць працу. На фабрыках, якія ён наведваў па чарзе, з ім гаварылі ахвотна, але толькі да моманту, калі ён пачынаў распавядаць пра свае апошнія клопаты. Студэнта-хулігана, які выступаў супраць народнай улады, ніхто не хацеў браць на працу.

З капітанам Загурскім Леон сустрэўся ля фантана ў Саскім садзе. У глыбіні душы быў удзячны гэтаму следчаму. Загурскі амаль на дзесяць гадоў старэйшы за яго, і Леон разумеў, што гэта, па сутнасці, яму ён мусіць быць удзячны за ніштаватыя ўмовы пад час побыту ў турме.

— Ну дык што, Квяткоўскі, як маецеся?— першым загаварыў Загурскі.

— Ведаеце самі, выкінулі мяне з універсітэта і пакуль не маю ніякіх шанцаў на вяртанне. На працу таксама нідзе не хочуць прымаць. Вольных месцаў шмат, але калі чуюць — сядзеў і за што, дык адразу заканчваюцца ўсе размовы. Ужо не ведаю, што і рабіць.

— Ведаеце што, патэлефануйце заўтра да мяне на службу. Мы ўбачымся, і, можа, я нечым дапамагу.

— А, гэта вы, Квяткоўскі — пачуў ён праз два дні знаёмы голас капітана ў слухаўцы тэлефона.— Я маю для вас добрую навіну: з 1 кастрычніка вы можаце пачаць працу ў гуце "Варшава". Папярэджваю, лёгка не будзе!

— Як я вам за гэта буду ўдзячны!— узрадаваўся Леон.

— Пачакайце, гэта яшчэ не ўсё. Хачу вам нешта сказаць наконт вашай вучобы. Калі вы адпаведна вызначыце сваю палітычную пазіцыю і маладзёжная арганізацыя дасць вам пазітыўную ацэнку, дык, магчыма, я здолею залатвіць і гэтую справу. Можа, нават здолееце дагнаць страчаны год. Гэта ўсё. Болей добрых навінаў на сёння не маю. Ці гэтых дастаткова?— засмяяўся Загурскі.

— ...

— Хэло? Пан Квяткоўскі? Ці чуеце вы мяне?

— Так, чую цудоўна,— адказаў ашаломлены Леон.— Чаму вы ўсё гэта для мяне робіце? Бо ж гэта не ўваходзіць у вашыя абавязкі?

— Скажам, ад дабрыні сэрца. А калі сур'ёзна... Я ўжо тлумачыў вам учора, што кожнаму,хто памыліцца, нашая дзяржава дае шанц выпраўлення і вяртання ў грамадства. Цяпер толькі ад вас залежыць, ці здолееце вы скарыстаць гэты шанц. А можа і вы калісьці будзеце ў стане дапамагчы і дапаможаце гэтак, як я сёння вам.

— Канешне. Пра тое, што вы для мяне зрабілі, я буду памятаць да канца жыцця. Сапраўды, вельмі шчыра дзякую, пан капітан.

Эйфарыя часткова знікла, калі першага кастрычніка ён стаў на сваім месцы працы. Быў накіраваны ў вальцоўню, самы цяжкі цэх на ўсім заводзе. Тэмпература пад час выпуску металу часам перавышала 80 градусаў, але не гэта было найгоршым. На перасоўванне вялікіх цяжараў ледзьве хапала ягонай сілы. На такую працу былі патрэбныя здаровыя хлопцы, а не такія, як ён. Ніхто, аднак, пра гэта не ўзгадваў.

— Студэнт, вынесі, студэнт, прынясі, студэнт, курва, не разявайся,— чуў ён штодзень.

Праз тыдзень ён меў усяго гэтага досыць. Жыў і працаваў як аўтамат: дом— гута, гута— дом. І так увесь час. Пасля васьмі гадзін працы прыходзіў цалкам вычарпаны, не меў нават ахвоты есці, падаў адразу на ложак. Часам толькі глядзеў нейкі фільм па тэлевізары. Гэта было адзіным адпачынкам.

Не, не мог павярнуць назад. Мушу сціснуць зубы і трымацца, паўтараў ён сабе ў хвіліны вагання. Гэта адзіны шанц вяртання да навукі. Адзіны.




З вялікай цяжкасцю прызвычаіўся да новай працы і рытму жыцця. Калегі навучылі яго, як даваць рады цяжарам і бараніцца ад працінаўшай яго гарачкі. Але гэта не дало яму ўсёй палёгкі. Ужо праз некалькі тыдняў яго далоні былі цалкам пакрыты мазалямі. Даведаўся, што такое бесперапынны боль у спіне.

— Колькі я вытрымаю гэтага, колькі,— плакаў ён тады ў падушку, хаця ад болю ўначы яму хацелася выць. Але ўранні апранаўся і ехаў на працу, каб пунктуальна згодна з графікам, стаць ля вялікай печы.

2 студзеня 1969 года ён вярнуўся з другой змены каля адзінаццатай увечары. Каля парога яго чакала маці. Была чымсьці занепакоена.

— Леон,— сказала яна, кінуўшыся яму на шыю,— удзень тэлефанавалі з Палаца Мастоўскіх. Заўтра зранку табе трэба туды прыйсці. Што робіцца, чаго яны зноў хочуць?

— Не хвалюйся, мамуля,— пацалаваў ён яе ў шчаку.— Напэўна, яшчэ нейкія тлумачэнні ў сувязі з сакавіцкімі падзеямі. Шмат маіх сяброў цяпер выклікаюць. А можа гэта памылка? Ну, не плач, ідзі спаць. Заўтра ўсё высветліцца.

У гарадскую камендатуру ён прыйшоў у пятнаццаць хвілін на восьмую.

— Маё прозвішча Квяткоўскі. Леон Квяткоўскі. Не ведаю, да каго, але маю на сёння выклік,— сказаў ён маладой дзяўчыне з бюро прапускоў.

— А, пан Квяткоўскі. Вам у пакой 129. Я ўжо тэлефаную, зараз вас нехта правядзе.

Як жа ён здзівіўся, калі за сталом убачыў капітана Загурскага.

— Сядайце, калі ласка,— капітан рухам рукі паказаў на крэсла.— Што чуваць, як працуецца?

Знерваваны і занепакоены, ён сеў. Хвіліну маўчаў.

— Стараюся, як магу,— сказаў ён нарэшце.— Спачатку было цяжка, але цяпер усё патроху наладзілася. Так мне здаецца. Даруйце, але я хацеў бы спытаць: можа на мяне былі нейкія скаргі і адсюль гэты выклік?

— Ды што вы! Зусім наадварот. Таварышы з партыйнай арганізацыі, якія штодзень назіраюць за вамі, выказаліся пра вас як найлепш: сур'ёзны, узорна выконвае свае абавязкі, сумленны... Адным словам, толькі пахвалы. Бачу, што сур'ёзна ўспрынялі мае парады. Вельмі рады таму.

Твар Леона трохі пачырванеў.

— Дзякую, пан капітан,— няўпэўнена адказаў ён.

— Мы яшчэ раз прагледзелі змест вашай справы і ранейшыя дакументы з універсітэта,— працягваў Загурскі.— Ведаеце, мы прыйшлі да высновы, што сапраўды будзе шкада, калі вам яшчэ дзевяць месяцаў прыйдзецца працаваць у гуце. Гэта сапраўды праца не для вас. Марнуеце сілы і здароўе. Вашае месца ва універсітэце.

У глыбіні душы Леон хацеў гэтага. Але што меў цяпер адказаць?

— Вы разумееце,— працягваў капітан, убачыўшы нерашучасць Квяткоўскага,— што мы можам аказаць сабе ўзаемныя паслугі. Вы вернецеся ва універсітэт, а ўзамен за тое згадзіцеся супрацоўнічаць з намі. Час ад часу...

— Гэта значыць так, як тады, у турме?— спытаў занепакоены Леон.

— Не. Не штодзень. Толькі тады, калі мы ад вас чагосьці запатрабуем. Гэта можа здарыцца раз на месяц, на год, а можа, на дзесяць гадоў. Думаю, што такая ўмова ў вашых інтарэсах. Ну як, дамовіліся?

Леон павольна кіўнуў галавой у знак згоды.

— Калі так, дык бярыце пяро, паперу і пішыце.

Капітан падаў яму патрэбнае да пісання, і Квяткоўскі слова за словам пісаў дыктаваны ім тэкст:

"Абавязуюся супрацоўнічаць з органамі Службы Бяспекі і захоўваць гэты факт у поўнай тайне. На час супрацоўніцтва прымаю псеўданім "Давід" і кантактны пароль "Давід, прачніся".

— Цяпер разборліва падпішыцеся і пастаўце дату,— дадаў капітан Загурскі.

Леон на хвіліну завагаўся, але пасля нецярплівага: "Ну, што разважаеце? Не патрэбная вам навука?"— пад напісаным тэкстам паставіў добра бачны подпіс: "Леон Квяткоўскі".

Праз чатыры дні ён аднавіў вучобу на факультэце права. Вярнуўся ва універсітэт са славай героя-пакутніка. Старэйшыя калегі здзіўляліся ягонай трываласці: паўгода ў турме, а потым — катаржная праца ў вальцоўні гуты "Варшава". Для маладых ён быў героем студэнцкага руху. Стаў вядомым, папулярным, шанаваным. Моцна ўзяўся за навуку. Паставіў за мэту вярнуць змарнаваныя месяцы. Яшчэ не так даўно працаваў як аўтамат: праца—дом, праца—дом. Цяпер працу замяніла навука. І атрымалася. Ужо на чацвёртым курсе, нягледзячы на гадавы перапынак, дагнаў тых, з кім разам пачынаў вучыцца.

— Хлопец, куды ты так гоніш? Не шкада патрачанага ў маладосці часу?— пыталі яго.

— Ведаеш, шмат зразумеў там, у турме,— звыкла адказваў ён.— І абяцаў сабе, што калі здолею вярнуцца ў бурсу, дык дыплом атрымаю разам з тымі, хто не маніфеставаў у сакавіку.

Адны лічылі яго дзіваком, другія здзіўляліся.

Ён зрабіў, што хацеў. Улетку 1972 года з рук таго самага дэкана, які чатыры гады таму так далікатна адмовіў яму ў аднаўленні на факультэце, атрымаў дыплом магістра права з адзнакай.

У другой палове таго самага дня запрасіў найбліжэйшых сяброў на вялікую п'янку. Свежаспечаны магістр не адмовіўся ад старадаўняга студэнцкага звычая ўсяночнага балявання дзеля адзначэння такой падзеі.

Калі прачнуўся наступным ранкам, у яго балела галава, а высахлае горла патрабавала чагосьці выпіць.

— Гэта, пэўна, пахмелле,— зразумеў ён, бо дагэтуль такі стан быў яму знаёмы пераважна з расказаў прыяцеляў.

Зазваніў тэлефон ля ложка.

— Хэло,— з цяжкасцю выгаварыў ён у слухаўку.

— Давід?— спытаў нехта з таго боку.

— Памылка...

— Не, гэта не памылка. Гэта я, капітан Загурскі. Ці вы забыліся пра мяне?

Леон імгненна апрытомнеў, у галаве завіравалі думкі.

— Віншую са сканчэннем навучання, пан Давід. Чуў, што вы збіраецеся заняцца адвакацкай практыкай?

— Так, думаў пра гэта. Але ведаеце, для чалавека збоку, такога, як я, гэта рэч амаль немагчымая.

— Чаму ж? Звярніцеся заўтра да старшыні Галоўнай Адвакацкай Рады. Ён зоймецца вамі. Яшчэ раз віншую!— і размоўца паклаў слухаўку, перапыніўшы сувязь.

Леон уздрыгнуў. Ён не размаўляў з Загурскім больш чым чатыры гады. Спачатку праз пароль "Давід" з ім кантактаваў нейкі незнаёмы малады мужчына, якому ён, каб адчапіцца, даў тлумачэнні аб настроях, што панавалі на факультэце. Ніколі не атрымліваў ніякіх адказаў ані якіх каментароў. Нічога — поўная цішыня. Далі яму святы спакой. Прыйшлі да высновы, што Шціrліца з мяне не будзе, патроху супакойваўся ён. Пад канец навучання быў перакана765ны, што такіх, як ён, хто ў 1968 годзе напісаў падобную заяву, былі дзесяткі, а можа сотні. Ён не апраўдваў спадзяванняў, быў для іх непрыдатны, дык выкраслілі яго з картатэкі.

Сённяшні званок закрэсліў усе спадзяванні. Узгадалі аб ім, ён як і раней, у спісах. І яшчэ гэтая прапанова была спакуслівай, прызнаўся сабе. Як і большасць студэнтаў факультэта права, у глыбіні душы ён марыў аб адвакатуры. Ведаў, аднак, што на гэта маглі разлічваць толькі дзеці ўплывовых асобаў ці вядомых адвакатаў. Такіх шарачкоў, як ён, не дапускалі. Прапанова капітана была адназначнай... Калі ён здолеў залатвіць справу ў 1968 годзе, дык роўна лёгка здолее дапамагчы і з адвакатурай. Толькі чаму так стараецца дапамагчы яму? Урэшце, навошта пра гэта думаць? Дакументы на ўсялякі выпадак ён занясе...

— Аскарджаны Вацлаў Вільчыньскі і ягоны абаронца Леон Квяткоўскі,— праверыў спіс суддзя.

Гэта была першая ў ягоным жыцці справа, у якой выступаў самастойна. Першая, але такая цяжкая і адказная. Ягоны кліент быў абвінавачаны ў хуліганстве і ўдзеле ў антыдзяржаўнай маніфестацыі каля Механічных прадпрыемстваў ва Урсусе ў чэрвені 1976 года.

— Падазроны дзейнічаў цалкам свядома,— грымеў пракурор.— Беручы ўдзел у мітынгу, ён падтрымліваў сілы, варожыя сацыялістычнай айчыне. Вулічныя беспарадкі, рабаўніцтва і падпалы не могуць застацца беспакаранымі. Наша дзяржава дастаткова моцная, каб спыніць і задушыць падобныя эксцэсы і адначасова стварыць магчымасці для іншых форм выказвання, калі кожны грамадзянін можа выкласці свае погляды і меркаванні. Аднак вуліца — не месца для дыскусій і ніколі ім не будзе....

— Прашу высокі Суд,— пачаў першую ў жыцці абаронную прамову Леон Квяткоўскі.— Мой кліент увогуле не ўдзельнічаў у падзеях, што спрабаваў прыпісаць яму пракурор. Пасля выхаду з тэрыторыі фабрыкі ён быў беспадстаўна затрыманы патрулём паліцыі і дастаўлены ў пастарунак. За гэты час ён быў жорстка збіты супрацоўнікамі паліцыі, якія суправаджалі затрыманых. Пад час выхаду з машыны другая група паліцыянтаў ля ўваходу ў камісарыят зрабіла яму так званую "сцежку здароўя". Высокі Суд! Не мой кліент мусіць сядзець сёння на лаве аскарджаных пад час разгляду сфабрыкаваных Службай Бяспекі і пракуратурай абвінавачванняў, але арганізатары бясчынстваў. У сувязі з тым прапаную прызнаць ягоную невіноўнасць.

Адвага і дзёрзкасць гэтай прамовы шакіравалі ўсіх прысутных у зале. Увогуле, абвінавачванні выклікалі сумненне. Таму перапынак на вынясенне выраку цягнуўся незвычайна доўга. І нарэшце вырак: невінаваты, які быў нечаканасцю для сям'і і сяброў аскарджанага.

Старыя, дасведчаныя адвакаты вінавацілі яго за выказаную адвагу і паспяховае скончэнне цалкам безнадзейнай, як падавалася, справы. Пасля некалькіх падобных выступленняў Квяткоўскі набыў славу аднаго з лепшых абаронцаў работнікаў, праследаваных пасля чэрвеня 1976 года. Рос ягоны прэстыж. Да яго па парады ўсё часцей звярталіся супрацоўнікі новых работніцкіх арганізацый. Усё глыбей ён уваходзіў у свет палітычнай апазіцыі.

І тады ў другі раз затэлефанаваў капітан Загурскі.

— Давід? Маю для цябе заданне...

Ён мусіў даць інфармацыю аб сваім цяперашнім кліенце, адным з дзеячаў варшаўскай апазіцыі.

Квяткоўскі перажыў тры кашмарныя дні, поўныя ўнутранай барацьбы. Кліент верыць яму і ён не можа здрадзіць святой адвакацкай таямніцы.

— Я не магу гэтага зрабіць. Гэтага — не, — урэшце сказаў ён Загурскаму.

— Слухайце, Блюм,— у голасе Загурскага прагучала недвухзначная пагроза,— мне гэта патрэбна. Вельмі. А наколькі непажадана вам, каб копіі вашых пагадненняў аб супрацоўніцтве і некалькі даносаў, якія вы напісалі пад час навучання, не апынуліся ў руках вашых сяброў? Там ёсць прозвішчы асобаў, з якімі вы падтрымліваеце кантакты дагэтуль...

Ён даў патрэбныя звесткі. Ён знайшоў прычыну перадаць справу маладому калегу разам з матэрыяламі, што датычылі лініі абароны. Праз тыдзень даведаўся ад калегі, што былы ягоны кліент у турме скончыў жыццё самагубствам. Мусіць, за дзень да таго яму паказалі даведкі, напісаныя рукой ягонага бліжэйшага прыяцеля.

— О, Божа,— зразумеў Квяткоўскі,— я забіў чалавека. Яны падрыхтавалі сведчанні на падставе маёй інфармацыі. Я забіў яго! Даруй мне, Божа...

Загурскі не тэлефанаваў больш ніколі.

Пераклад з польскай
У. ПАНАДЫ.

(Працяг будзе).

# НАШЫ ЗА МЯЖОЙ

## ІГАР, ЯКІ ПАЦІСНУЎ РУКУ БУШУ

**Нядаўна папулярны малады беларускі кампазітар Зміцер ЯЎТУХОВІЧ пабываў за акіянам. Акрамя канцэртаў на амерыканскай зямлі, было шмат цікавых сустрэч, знаёмстваў, размоў. І ўвесь час Зміцер не забываў націскаць на кнопку дыктафона. Так было і пад час гутаркі з Ігарам — мінчуком, які зараз вучыцца ў Злучаных Штатах,— галоўнай дзеючай асобай нашай сённяшняй публікацыі.**



**– Ведаеш, Ігар, сярод усіх радыёстанцый я найбольш часта слухаю тут "Сі Дзі ўан-уан 'пойнт найн". Музыка, канешне, гучыць "фірмовая". А ты што часцей за ўсё слухаеш? Ці даводзіцца ўвогуле слухаць радыё?**

— Ну, я ўвесь час слухаю радыё. Тут прыкладна 50 станцый: і для тых, хто слухае хэві-метал, і для аматараў класікі. Мне падабаецца станцыя "Зі ўан хандрыт" — спецыяльна для маладых. Там увесь час перадаюць 10 самых папулярных песень. Аднаго разу я ехаў з сябрам. Клёвая музыка! І я так заслухаўся, што нават на чырвонае святло праехаў. Чорт! А там паліцэйскі быў — 25 даляраў. Вось табе і музыка.

**– А колькі ты ўжо ў Амерыцы?**

— Прыкладна 7—8 месяцаў.

**А машыну ты бярэш у арэнду ці купіў ужо?**

— Я купіў машыну "Форд эскорт". Гэтая "тачка" 87-га года добра ездзіць.

**– А чым адрозніваюцца амерыканскія машыны ад нашых?**

— Тут аўтаматычная каробка хуткасцей, не трэба тузаць, як у нас, пераключаць перадачы. Але ж бензін таксама заліваць трэба.

**– Але ты сам яго не заліваеш, як у нас?**

— Не, вядома. Пад'ехаў на станцыю, папрасіў, колькі табе трэба. Яны зальюць, пратруць шкло — і ўсё.

**– Ігар, некалькі слоў пра каледж, дзе ты вучышся. Што гэта за каледж, як ты паступіў туды?**

— Я вучуся ў платным каледжы. Гэта "Мілд сэкс каўнці каледж". Знаходзіцца прыкладна ў 20 хвілінах ад майго дома.

**– "Мідл сэкс" – гэта назва раёна?**

— Так. "каўнці" — гэта раён. Зараз я вучу толькі англійскую мову. У наступным семестры думаю ўзяць камп'ютэры або "бізнес-адміністрэйшн- курс".

**– Ну, а з музыкай нічога не звязана ў каледжы?**

— Ёсць. Можна навучыцца іграць на гітары, ударных, піяна — на чым хочаш, толькі плаці грошы.

**– А якія яшчэ ты займеў звычкі? Ці паспеў навучыцца "гульні мільянераў" – гольфу?**

— Гэта цяжкая ігра. Трэба мець 18 клюшак, кожная галоўка пад сваім нахілам. Сэнс у тым, каб забіць мячык за некалькі спроб у ямку, якая знаходзіцца мінімум у 50-ці метрах.

**– А бейсбол, амерыканскі футбол? Яны падаліся мне крыху прыдуркаватымі.**

— Я гэтыя гульні сам не разумею. А калі я ў каледжы кажу, што люблю "сакар", — тут так называюць еўрапейскі футбол, — то яны таксама не разумеюць.

**– Ігар, а ты часта тэлефануеш у Мінск маме?**

— Званю, калі ёсць час.

**– А мама звоніць?**

— Часта.

**– Ну, а фінансава ты дапамагаеш сваёй сям'і?**

— Трэба крыху дапамагаць. Там жа праблемы.

**– А з эміграцыі ты з кім-небудзь сябруеш?**

— Рэдка хто з Беларусі прыязджае. У асноўным — Масква, Санкт-Пецярбург і раёны Адэсы. А ўвогуле з беларускімі эмігрантамі, вядома ж, сябрую

**– А ты стараешся з беларусамі ўсё ж размаўляць па-беларуску?**

— Так. Неабходна гаварыць па-беларуску, бо тут падтрымліваюць родную культуру.

**– А не шкадуеш, што ў школе на ўроках беларускай мовы не вучыўся як след?**

— Шкадую, вядома. Але тым не менш я за гэты тэрмін, што тут прабыў, даволі добра навучыўся размаўляць. Але раней гэта было б смешна, калі б я ў школе адказваў па-беларуску.

**– А аб чым ты яшчэ шкадуеш?**

— Што мала займаўся спортам, не вучыўся ў школе... ну, і ўсё. Ды мне 19 гадоў, пра што я магу шкадаваць?

**– А скажы, Ігар, ты застанешся ў Амерыцы назаўсёды ці як?**

— Я тут знаходжуся толькі як студэнт. Трохі павучуся, а потым паеду ў свой край, да роднага ганку.

**– Гарадок Саўт Рывер, дзе ты жывеш, – невялікі. Што табе тут падабаецца, што незвычайнага?**

— Усе ведаюць спевака Джона Бонджові. А нарадзіўся ён непадалёк. Тут ёсць, ды і ў кожным штаце, хард-рок кафэ. І калі папулярныя артысты знаходзяцца ў гэтым штаце або жывуць, то ў іх такі звычай — прыходзіць у гэтае кафэ, даваць канцэрты або проста пасядзець, выпіць, паразмаўляць.

Раскажу яшчэ пра адзін выпадак, які адбыўся ў каледжы каля месяца таму. Усе, напэўна, ведаюць, што ў ЗША скончылася перадвыбарная кампанія. І ў наш каледж прыязджаў прэзідэнт Буш. Ён прасіў, каб усе аддалі галасы за яго, казаў, што эканоміка пойдзе ўверх, усё будзе добра.

**– Дык што, ты Буша бачыў?**

— Так, ён стаяў прыкладна як ты. Акрамя таго, калі ён адыходзіў, пацiскаў рукі тым, хто знаходзіўся ў першых радах. Ну і, вядома, я ўлез — бо высокі — схапіў за тры пальцы і таксама патрос яго руку.

**– Ён за цябе вышэйшы?**

— Ён крыху ніжэйшы за мяне. Выглядае маладжава. Толькі было вельмі шмат "сек'юрыці" — аховы.

Дарэчы, каб паглядзець Буша, трэба было прайсці праз пас-кантроль — уся зона ачэплена, і ты праходзіш праз такія штукі, як у аэрапорце. Яны спрацоўваюць на метал. І ўсе камеры, металічныя і пластыкавыя прадметы ахоўнікі аглядалі. Нічога нельга было занесці ў зону.

**– У канцы нашай гутаркі ты можаш перадаць прывітанне сваім родным, знаёмым.**

— Усім сваім братам, сёстрам, маці, бацьку — усяго добрага. І, вядома, бабульцы, якая жыве ў Лагойску.

Гутарыў Зміцер ЯЎТУХОВІЧ.

*Нуль па фазе*

## РАЗГРУЗАЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

Мне здаецца, што мы жывём, як у сталоўцы, – не жыццё, а адна разгрузка. Атрымаеш палучку, зойдзеш у магазін, тое-сёе набудзеш, памацаеш у кішэні рэшткі "кроўных", праглынеш сліну ля каўбаснага аддзела, пачухаеш патыліцу, праходзячы ля бесчарговага вінна-гарэлачнага прылаўка, ды і пойдзеш дадому... Не, не абедаць, бо гэта ўжо абедам не назавеш, як калісь, а хутчэй проста – разгрузкай.

А зойдзеш набыць шкарпэткі ці то яшчэ што з адзення! Пашастаеш ад сцяны да сцяны, абыходзячы цэннікі, ды й хутчэй да дзвярэй назад! А па дарозе як глянеш на свой твар у люстэрка з цаною колішняга веласіпеда, скаланешся ўвесь, ёкнеш, войкнеш, аяйкнеш – ды дай, мой беларускі Божа, мне ножак!

Ну, прыйдзеш дадому, памыешся, чаю з мятаю пап'еш (ля дома расце, сабраў летась), ля тэлевізара ўладкуешся (газеты не выпісаў, бо дарагія, толькі на адзіную "Чырвонку" наскроб, дык я яе за гадзіну прачытваю). А тут мая ненаглядная жонка шыбуе, вочы – маланкі, валасы – цунамі.

– Ты што, халера гемаройная, усеўся! Ведаеш, колькі зараз электрычнасць каштуе!? А яшчэ на кухні святло пакінуў!..

– Ды я... в-ведаю... н-не ведаю...

А яна пстрык! І няма мне тэлевізара!..

Вось так і жывеш: у дзень чакаеш ночы, а ноччу раніцы – ды хутчэй на працу!

А калі-нікалі мая ноччу да мяне прыласціцца, а я ёй у адказ:

– А ведаеш, колькі зараз каханне каштуе?!.

– А адкуль жа мне ведаць, я ж у валютныя гатэлі не бегаю!

– А ты б пацікавілася дзе-небудзь!

– Што ж, прыйдзецца пацікавіцца! – уздыхае жонка і паварочваецца да мяне тым месцам, па якім я так любіў яе ляпаць дзесяць год назад.

"Гэта табе за тэлевізар, – думаю я. – Ды і адкуль тое каханне возьмецца, калі я мяса толькі на прылаўку бачу!"

А нядаўна па тэлевізары пачуў, ці то быў жарт, у праграме "Музычная вёска", што кожную хвіліну на нашай планеце столькі здараецца аргазмаў (гэта значыць кахальнай разгрузкі), што гэткай энергіі хапіла б, каб нашу Зямлю змахнуць з арбіты!

Але калі ўсё такое здарыцца, маё сумленне застанецца чысцюткім, як у анёла. З нашым разгрузачным жыццём мы цвёрда і моцна трымаем любую нам Зямлю на яе спрадвечнай арбіце!

Алесь ШАЎЦОЎ.

*Рэклама ў нумар*

МІНСКІ радыётэхнічны інстытут

аб'яўляе набор слухачоў на пяцімесячныя вячэрнія і завочныя падрыхтоўчыя курсы.

Пачатак заняткаў 15 студзеня 1993 года.

Пасля заканчэння курсаў слухачы здаюць выпускныя экзамены і пры атрыманні адзнакі "5" вызваляюцца ад здачы адпаведных уступных экзаменаў.

*Тэл. для даведак: 39-89-88, 39-89-58, 39-88-49.*

У наш свецкі салон будуць завітваць людзі, якія займаюцца модай і рэкламным бізнесам. Дакладна аб усіх праблемах і поспехах раскажуць кіраўнікі айчынных школ здароўя і прыгажосці, а таксама прадстаўнікі замежных агенцтваў. А пачнём з гісторыі.

"Мода — гэта стан душы. Мода блукае па вуліцы, не ведаючы, што яна ўжо існуе, пакуль я не зірну на яе па-свойму. Я стварыла моду сваёй эпохі, таму што здолела выказаць гэтую эпоху. Думаю, што я першая адлюстравала ў модзе XX стагоддзе".

КОКО ШАНЭЛЬ.

# КОКО ШАНЭЛЬ — ЖЫЦЦЁ І ЛЕГЕНДА,

## *або Як стваралася мода XX стагоддзя*

Яе бацькі былі, што называецца, беднымі правінцыяламі. Альберт Шанэль, "вандроўны камерсант", не паспеў аформіць свой шлюб, калі на свет з'явілася Габрыэль. Гэта гістарычная падзея адбылася ў маленькім гарадку Самюр-на-Луары, у бальніцы для бедных, куды звярталіся людзі толькі з ніжэйшых слаёў грамадства. Дату нараджэння дзяўчынкі — 19 жніўня 1883 года трэба запомніць, таму што з цягам часу мадэмуазель Шанэль будзе ахвотна маладзіцца. Пасля смерці маці, змучанай цяжкай працай і шматлікімі родамі, трынаццацігадовую дзяўчынку разам з сястрой аддаюць у манастырскі прытулак для сірот, дзе яна правяла пяць сумных гадоў. Манастыр не прыйшоўся ёй па душы. Дасягнуўшы паўналецця, Габрыэль адпраўляецца ў Мулен, дзе жыве больш заможная "галінка" роду Шанэль. Ёй дала прытулак цётка Адрыена, равесніца Габрыэль і яе самая лепшая і шчырая сяброўка. Разам яны працуюць у модным магазіне, усе прымаюць іх за родных сясцёр. Прыгожыя дзяўчаты часта бываюць на прагулках у гарадскім садзе, на танцах, дзе карыстаюцца зайздросным поспехам у афіцэраў мясцовага гарнізона. Родныя скоса паглядваюць на іх, думаюць: ці не збіліся яны са шляху?

Лета, праведзенае ў другой цёткі — Жуль, прынесла дзяўчыне новае, да гэтага часу не знаёмае адчуванне — дом. Зручны, дагледжаны, утульны — такі і яна некалі будзе мець. У цёткі Жуль залатыя рукі і багатая фантазія. "Сёстры" з захапленнем вучацца ў яе шыць, вышываць, упрыгожваць капелюшы.

Вярнуўшыся ў Мулен, дзяўчаты праводзяць вечары ў кабарэ "Ратонда". Габрыэль з цікавасцю паглядвае на маленькую сцэну "Ратонды", а ў хуткім часе яна ўзыдзе на яе сама. Праўда, голас у яе быў слабенькі, але Габрыэль кампенсуе гэта дзёрзкасцю і яшчэ нечым зусім няўлоўным.

Потым Шанэль будзе ствараць міф аб дзяцінстве, праведзеным у "пухавіках і аксамітах", пра бацьку-англамана, які прыдумаў ёй ласкавую мянушку — Коко.





На самай справе аўтарамі яе імя былі афіцэры-заўсёднікі "Ратонды".

Коко марыла аб сапраўднай вялікай сцэне, аб Парыжы, пакуль жа ёй шанцуе выступіць у час курортнага сезона ў Вішы. Паклоннікі з усіх бакоў гавораць, якая яна цудоўная спявачка. Толькі адзін смелы сказаў ёй неяк: "Выкінь ты гэта з галавы. Пішчыш, як мышка...".

Гэтым смельчаком быў Эцьен Бальсан, афіцэр з яе акружэння, які не вызначаўся ні прыгажосцю, ні манерамі прадстаўніка "залатой моладзі", але быў верны і надзейны, як ніхто.

Вечарам Габрыэль на сцэне, днём уважліва вывучае газетныя аб'явы з надзеяй знайсці ангажэмент. І шые сабе ўсё больш прыгожыя ўборы, рамантычна інтэрпрэтуе мундзіры і змякчае вышыўкай іх ваенную строгасць.

Сезон у Вішы скончыўся крушэннем надзеі на сцэнічную кар'еру. Разам з Адрыенай яны дзеляць маленькі пакой, крыху шыюць для багатых кліентак. Падзарабляюць таксама ў павільёне для курортнікаў, разліваючы лекавыя мінеральныя воды.

Пасля смерці бацькоў Эцьен купляе маёнтак і, падпарадкоўваючыся сучаснай еўрапейскай модзе, заводзіць канюшні. Сюды часта наязджаюць вясёлыя кампаніі сяброў. У старажытным замку, адноўленым з вялікім густам, Габрыэль, між іншым, займае дальнія і вельмі сціплыя апартаменты — сувязі з "такой жанчынай" афішыраваць не прынята.

Вясной 1908 г. сярод сяброў Бальсана з'яўляецца нейкі Артур Капель. Ён незвычайна прыгожы і па-англійску элегантны. Сяброўства Коко з Артурам перайшло ў пылкае каханне. Праз год яна пераязджае ў Парыж і абзаводзіцца колам прэстыжных заказчыкаў.

У 1913 годзе Габрыэль жыве ў Давілі — летняй сталіцы Францыі. Марскія купанні яшчэ не сталі ўсеагульнай звычкай. Коко і яшчэ некалькі "скандальных асоб" пад абстрэлам біноклеў з суседніх віл і гатэляў з'яўляюцца на пляжах у спецыяльных касцюмах для купання. І смелы касцюм, выдуманы Шанэль, і самі адважныя купальшчыцы выклікаюць сенсацыю.

З падтрымкай Артура Габрыэль адкрывае свой першы магазін. Гаспадыня ў летнім касцюме мужчынскага пакрою, светлым і свабодным, нават рухаецца інакш. Гэта і зразумела, бо яна скінула гарсэт. Яе выгляд выклікаў "святое абурэнне" курортных дам.

Модны магазін Шанэль і яго гаспадыня робяцца ўсё больш вядомымі. Гэта быў час яе першых сапраўдных прафесійных поспехаў, але і час растрачаных надзей. Менавіта тады яна зразумела, што не належыць асяроддзю свайго Артура і ніколі не стане яго жонкай.

1914 год. Выбухі ў Сараева ўскалыхнулі ўвесь свет. Але ў Давілі больш перапалоху выклікала мадэмуазель Шанэль. Яе слава імкліва расце дзякуючы баранесе Ротшыльд, якая пасварылася са сваім "прыдворным краўцом", каралём моды таго часу Полем Пуарэ. Помста былой кліенткі была жорсткай. Сваіх тытулаваных сяброўак баранеса водзіць цяпер толькі да Шанэль. Увесь элегантны свет франціць ва ўборах Габрыэль. Яна апранае сваіх кліентаў у англійскі стыль.

На вяршыні поспеху Шанэль раптам страчвае сваіх кліентаў. Да Давілі падступае вайна. Гатэлі ператвараюцца ў шпіталі. Патрыётка Коко шые сукенкі для сясцёр міласэрнасці.

Не, яна не дазволіць лёсу зламаць сябе. І вось у Біярыцы ў раскошнай віле адкрываецца Дом моды Шанэль.

У канцы 1915 года Шанэль — уладальніца знакамітай ужо фірмы. Яна востра адчула рэвалюцыю, якая набліжалася ў свядомасці і модзе: "дэмакратычныя", вольныя норавы пакарацілі спадніцы, знікла талія, ад гарсэтаў адмаўляюцца. Шанэль заключае дагавор з буйным вытворцам баваўнянай тканіны машыннай вязкі — джэрсі. Гэту тканіну Коко ператварае ў масавыя серыі касцюмаў: спадніца да сярэдзіны лыткі, свабодны жакет... На свет з'явіўся касцюм-шэлізье, які мы носім і сёння.

Да гэтага часу Шанэль панавала ў салонах. Цяпер жа яе мода выйшла на вуліцы, і гэта яе самая вялікая перамога.

Восенню ў 1917 г. у аўтамабільнай катастрофе загінуў Артур Капель. А ў сакавіку наступнага года Габрыэль пераязджае ў свой новы дом — раскошную вілу "Бель Распіра" (што можна перакласці як "Цудоўнае паветра" або "Цудоўны адпачынак", — словам, рай...), пачынаецца "рускі перыяд" у жыцці Шанэль. Яна знаёміцца з Сяргеем Дзягілевым і фінансуе яго балетную пастаноўку.

Яе прадставілі "трэцяй даме" неіснуючай імперыі — вялікай княгіне Марыі Паўлаўне. У "Бель Распіра" пасяліўся Ігар Стравінскі разам з жонкай і чатырма дзецьмі. Яго слава яшчэ наперадзе. А пакуль ён дзіка, па-славянску, закаханы ў цудоўную мадэмуазель, у чым прызнаецца ёй з раніцы да вечара.

Дзе адбылася першая сустрэча Шанэль з вялікім князем Дзмітрыем Раманавым? Паводле адных сведчанняў, у Венецыі, паводле другіх — у Біярыцы, дзе жыла руская арыстакратыя, збегшая ад жахаў рэвалюцыі.

Шанэль была старэйшая за Дзмітрыя на адзінаццаць гадоў, і гэтае каханне наўрад ці можна назваць шалёным. Яно было абмалявана хутчэй пяшчотнасцю, узаемным даверам, сяброўствам.

У 1921 г. на дэманстрацыі мод Дома Шанэль з'яўляюцца "Шанэль № 5" — першыя духі са складаным, ці, як цяпер кажуць, "фантазійным" пахам. Гэта была яе новая перамога ў свеце парфумерыі: у той час духі толькі паўтаралі пах якой-небудзь кветкі — фіялкі, язміну, ружы... Расказваюць, што калі Шанэль заказала вядомаму парфумеру Эрнесту Бо духі для сваёй фірмы, ён падрыхтаваў некалькі кампазіцый у пранумараваных флаконах. Шанэль выбрала № 5. Так нарадзіліся духі-легенда.

Каханне князя і ўсё яе "рускае асяроддзе", безумоўна, аказалі на яе творчасць вялікі ўплыў.

З'яўляецца калекцыя Шанэль у рускім стылі: вытанчаныя вышываныя кашулі, паліто на футры — паводле яе ўяўлення, падобныя на тыя, што насілі рускія баярыні.

Ідылія працягвалася толькі год. Усё, чым валодаў нашчадак царскай фаміліі, параднёнай з усімі дварамі Еўропы (сваё імя і тытул), ён прапанаваў багатай амерыканцы. Габрыэль вяртаецца ў Парыж.

У той час Габрыэль паланіла і іншы свет. Свет, дзе панавалі Пікасо, Както, Дзягілеў. Пад уплывам Жана Както, свайго сябра, частага госця, Шанэль захапілася касцюмамі для тэатра і не пакінула гэтага захаплення да 1937 года.

Нью Рычард Артур, герцаг Вестмінстэрскі, адзін з самых багатых людзей Англіі. У яго жыццё Габрыэль "трапіла" якраз паміж яго другім і трэцім шлюбам. Яна доўга супраціўлялася заляцанням знатнага лорда. Але ў рэшце рэшт саступае. І нават губляе галаву. Прычым настолькі, што марыць цяпер толькі аб адным — стаць жонкай герцага Вестмінстэрскага.

Ці думаў герцаг аб шлюбе? Хутчэй за ўсё так, пачуццё пачуццём, але патомак Вестмінстэраў павінен мець нашчадка. Яна павінна нарадзіць яму дзіця! Шанэль ужо за сорак. Візіты да вядомых дактароў і жорсткі прыгавор: бясплоднасць.

Лёс так і не даў Габрыэль таго, аб чым марыць кожная звычайная жанчына, — замужжа, сям'і. Поль Ірыб, мастак і сцэнограф, чарговы кандыдат у мужы, памёр ад сардэчнага прыступу на тэнісным корце — у яе на вачах.

Яна зноў у жалобе, вяртаецца ў Венецыю. А там ужо набірае моц фашызм.

Дзесяць пасляваенных гадоў Габрыэль жыве ў Швейцарыі. Вельмі багатая, працу закінула, старэе.

У лютым 1954 года Дом моды Шанэль прадстаўляе новую калекцыю. У Парыжы тады панаваў Дзіор. А на подыуме зноў чароўная сукенка-кашуля. Касцюм-Шанэль перажывае рэнесанс. Менавіта яго выбіраюць далікатная Ромі Шнайдэр і знакамітая Эдзіт Піяф.

...Восень жыцця ў багацці і раскошы. У кватэры, размешчанай над модным салонам з шыльдай, вядомай усяму свету — Шанэль, сваёй пакаёўцы яна ціха прашаптала: і так паміраюць?.. Гэта здарылася ў нядзелю, 10 студзеня 1971 года.

Паводле часопіса "Twoj styl".
Падрыхтавала А.ДАЛІДОВІЧ.



